№ 4 (91) 2011


# абажур


ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS




**ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!**



На выязным пасяджэнні Рады ГА «БАЖ» у Брэсце ўзнагародзілі калег і структурныя падраздзяленні БАЖ, прызнаныя лепшымі па выніках працы ў 2011 годзе. Пераможцай стала Лунінецкая філія ГА «БАЖ», ганаровымі дыпломамі адзначаны таксама Гомельская гарадская арганізацыя БАЖ, Бабруйская і Глыбоцкая суполкі сяброў арганізацыі.











БАЖ узнагародзіла і асобных сяброў арганізацыі. Кіраўнік Брэсцкага аддзялення БАЖ Алег Супрунюк адзначаны за адказную і сумленную працу ў філіі, намеснік кіраўніка гэтага аддзялення Жанна Сідарук — за актыўную грамадзянскую пазіцыю і працу з моладдзю. Ганаровы ліст падзякі атрымаў старшыня Магілёўскай суполкі БАЖ Генадзь Суднік. Сваю ўзнагароду ўручылі і гомельскія сябры ГА «БАЖ», якія вырашылі дыпломам «За адданасць прафесіі» адзначыць кіраўніка Бабруйскай суполкі БАЖ Анатоля Санаценку.

*Фота Сяргея БАЛАЯ*

абажур
ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
The Belarusian Association of Journalists
ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 4 (91) 2011 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота***
Photo.bymedia.net

***На вокладцы –***
Фота Аляксандра Зянкова

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009 г.

Падпісана да друку 28.11.2011 г.
Дата выхаду 30.12.2011 г.
Фармат 60х84 / 8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 600 асобнікаў.
Заказ №
Распаўсюджваецца бясплатна.

***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***

Друкарня СТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0150444 ад 19.12.2008 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Цімразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com






Сямён ПЕЧАНКО

# Прэса і крызіс

**У сярэдзіне лета, калі народ чакаў ля абменнікаў хоць якіх замежных грашовых паперак, у Беларусі раптам скончылася папера айчынная. Для незалежных выданняў. Прэса ж афіцыйная, як і беларускі рубель, заставалася пад апекай дзяржавы.**

## Рамонтам па незалежнай прэсе

Лета 2011-га акрамя традыцыйнага для сезону спаду продажаў газет прыгатавала для незалежных выдаўцоў яшчэ адзін надзвычай непрыемны сюрпрыз. Напрыканцы чэрвеня кіраўніцтва Шклоўскага завода газетнай паперы заявіла, што прыпыняе выпуск прадукцыі на месяц у сувязі з заканчэннем будаўнічых працаў. І хоць тады дырэктар завода Анатоль Хмялеўскі супакоіў, што гэта «ні ў якой ступені не адаб’ецца на нашых беларускіх спажыўцах», чые патрэбы завод «забяспечыць у поўнай меры», яго намеснік Алег Падабед тут жа ўдакладніў: «Падыход у забеспячэнні паперай дзяржаўных і недзяржаўных СМІ будзе розным».



Рознасць падыходу выявілася ў тым, што ад таго моманту недзяржаўныя СМІ мусілі набываць шклоўскую паперу выключна праз біржу. Для дзяржаўнай прэсы ўсё засталося па-ранейшаму. Намеснік дырэктара Падабед заявіў, што новыя правілы захаваюцца і пасля заканчэння абвешчанага месячнага «тайм-аўту», то бок стануць сталай практыкай. І дадаў, што пытанні заключэння кантрактаў з недзяржаўнай прэсай кіраўніцтва завода «стараецца ўзгадняць з Міністэрствам інфармацыі».

Першымі асаблівасці гульні па новых правілах ужо ў пачатку ліпеня адчулі на сабе выдаўцы рэгіянальных газет.

Рэдакцыям баранавіцкай газеты «Intex-press», а таксама «Брестского курьера» і «Брестской газеты» ў аддзеле продажаў шклоўскага завода адмовілі ў набыцці чарговай партыі паперы. Рэдактарам далі зразумець, што атрымалі загад з вышэйшых інстанцый пераключыцца на забеспячэнне патрэбаў дзяржаўных выданняў, прыпыніўшы продаж паперы недзяржаўным СМІ.

Рэдактар «Брестского курьера» Мікалай Аляксандраў расцаніў новаўвядзенне як каласальнае парушэнне раўнапраўя суб’ектаў гаспадарання.

Трэба адзначыць, што сярод рэгіянальных выдаўцоў былі і тыя, што здолелі абысціся без паслуг шклоўскага завода. Газета «Борисовские новости» ўжо пяць гадоў набывае паперу ў прыватніка і дзякуючы гэтаму пазбегла праблемы паставак.

Першай жа ахвярай шклоўскай ініцыятывы стала штодзённая газета «Спорт-Экспресс

в Белоруссии». 18 ліпеня адно з самых папулярных у Расіі спартыўных выданняў, якое ў Беларусі выходзіла дзесяць гадоў, прыпыніла выхад. У мінскай рэдакцыі патлумачылі гэта немагчымасцю набыць шклоўскую паперу.

У верасні і кастрычніку стала вядома, што праз безграшоўе старэйшыя выданні для дзяцей — часопіс «Бярозка» і газета «Раніца» — страцілі самастойнасць і ў наступным годзе будуць выходзіць у выглядзе дадаткаў да іншых выданняў.




## «Больш выгадна купляць паперу ў Расіі»

Галоўны рэдактар газеты «Intex-press» Уладзімір Янукевіч расказвае, што з ліпеня так і не здолеў дамовіцца з заводам у Шклове. «А цяпер ужо і не трэба тая шклоўская папера. Мы купляем у Расіі таннейшую», — заўважае Янукевіч і расказвае, як яго выданне выжывае ў крызіс.

Шклоўская папера каштуе 7 400 000 за тону, расійскі пастаўшчык прапануе за 7 100 000. Аднак выхад на больш выгаднага і прадказальнага пастаўшчыка — ці не адзіны пазітыў для «Intex-press» у гэтым складаным годзе.

«Intex-press» вымушаны быў скараціць наклад з 20 тысяч асобнікаў да 15 тысяч. Патанчэла і сама газета — на 8 старонак. Пры гэтым цана выдання ад пачатку года вырасла з 1200 рублёў да 3000. Ды і як не павышаць цану, калі друк даражэе на 3–5 % штомесяц, не лічачы рэзкага росту ў першым паўгоддзі. «А пакупніцкая здольнасць тым часам падае. Прыйдзе час, калі нашы чытачы паўстануць перад выбарам: купляць нас ці зэканоміць на газеце», — кажа Янукевіч.

Рэдакцыя ўзняла цэны на рэкламу на 40–50 %, але пераадолець наступствы інфляцыі гэта не дапамагае. Як і раней, дзяржаўныя прадпрыемствы з «парады» ўладаў не даюць сваю рэкламу ў ці не самае шматтыражнае выданне рэгіёна.

Заробак у сярэднім па выдавецкім доме «Інтэкс-прэс» складае 66 % ад сярэдняга па краіне. «Многіх гэта не задавальняе. Некаторыя супрацоўнікі звольніліся. Але мы нікога не бяром на іх месца. Пераразмяркоўваем абавязкі паміж астатнімі», — расказвае рэдактар. Ён не бачыць пакуль добрых перспектываў для свайго прадпрыемства.





# Па-ранейшаму «нерэнтабельныя» і «небяспечныя»

На фоне сёлетніх эканамічных праблем шэраг недзяржаўных выданняў працягваюць адчуваць на сабе цяжар нявырашанасці пытанняў з распаўсюдам. Як і пяць гадоў таму, у падпісным каталогу «Белпошты» па-ранейшаму адсутнічаюць «Intex-press», «Борисовские новости», «Новы Час» ды іншыя. А некаторыя, як часопіс «ARCHE Пачатак», зазналі і дадатковыя праблемы. Восенню 2011 года мінская кнігарня «Акадэмкніга» адмовілася прадаваць часопіс.

Часовыя праблемы з распаўсюдам у недзяржаўных выданняў узніклі ў Мінску ў сувязі з няўдалымі спробамі Управы БНФ знайсці новы офіс пасля страты сядзібы на былой вуліцы Варвашэні, дзе прэса заўжды знаходзіла чытача.

Галоўны рэдактар «Борисовских новостей» Анатоль Букас у гэтым годзе і не спрабаваў нават звяртацца ў «Белпошту», бо не бачыць у гэтым ніякага сэнсу.

Галоўны рэдактар «Новага Часу» Аляксей Кароль таксама стаміўся ад бясплённай перапіскі з кіраўніцтвам «Белпошты».

Аргументы чыноўнікаў для рэдактараў усё тыя ж, што і ў 2006-м: эканамічная немэтазгоднасць падпіскі і распаўсюду. Што гэта не так, сведчыць прыклад газеты «Ганцавіцкі час», якая ўжо год, як вярнулася ў паштовы каталог і кіёскі. Па словах намесніка галоўнага рэдактара выдання Пятра Гузаеўскага, з вяртаннем у распаўсюд падрос наклад. Газета адносна няблага прадаецца ў кіёсках «Белсаюздруку», даючы прыбытак і дзяржаўнай сістэме распаўсюду, і рэдакцыі.

# «Забяспечыць падпіску на падкантрольныя выданні»



Тым часам улады не спыняюць падтрымку дзяржаўным СМІ. На адной з канферэнцый міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі пераконваў, што рэйтынгі афіцыйнай прэсы і колькасць падпісчыкаў проста не пакінуць шанцаў незалежнай прэсе не толькі ў сённяшняй сітуацыі, але і ва ўмовах рынку.

Тое, што колькасць падпісчыкаў афіцыйных выданняў рэгулюецца адміністрацыйнымі метадамі, — ні для каго не сакрэт. Неаднойчы ў сеціве з'яўляліся дакументальныя пацвярджэнні — цыркуляры з рай- і гарвыканкамаў з патрабаваннем «забяспечыць» падпіску на «Советскую Белоруссию», раёнку, профільнае выданне (для настаўнікаў — «Настаўніцкую газету», для медыкаў — «Медыцынскі веснік»). Адзін з такіх дакументаў, разасланых Ваўкавыскім райвыканкамам, падкрэслівае цесную сувязь улады і дзяржаўнай прэсы. У цыркуляры выканкам настойліва просіць арганізаваць падпіску на «кантраляваныя» выданні. Ні больш ні менш.





*Святлана ГАРДА,*
*Лунінец*

# Знаходзім сяброў, рыхтуем калег

Журналісцкая майстэрня «ПРОФІль» другі год працуе пры рэдакцыі газеты «Информ-прогулка».

Каб стаць профі ў любой прафесіі, а ў журналістыцы асабліва, трэба, як гаворыцца, не адзін пуд солі з'есці. А што рабіць, калі жаданне вучыцца журналістыцы ёсць, а магчымасцяў няма? Гэта ў сталіцы і буйных гарадах для моладзі — усялякія курсы, студыі, у тым ліку творчага кірунку, якія больш-менш спрыяюць разуменню абранай прафесіі. У правінцыі магчымасці абмежаваныя. Таму, калі ў мінулым годзе Лунінец стаў адной з пяці пляцовак, дзе адкрылася школа маладога журналіста, тое стала сапраўднай падзеяй як для маладых аўтараў, так і для газеты «Информ-прогулка», якая мела патрэбу ў кадрах.

## «ПРОФІль» — у анфас

Слухачамі журналісцкай майстэрні «ПРОФІль» (назву для школкі абралі з некалькіх дзясяткаў прапанаваных варыянтаў) сталі 12 чалавек: акрамя вучняў старэйшых школьных класаў тры студэнткі-завочніцы (БДУ, педуніверсітэта імя М. Танка і Маскоўскага літаратурнага ўніверсітэта), а таксама студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Нехта меў, хоць і нязначны, вопыт працы ў СМІ, нехта марыў яго атрымаць, каб у будучыні звязаць жыццё з журналістыкай.

На першым занятку, пасля знаёмства, я прапанавала юнакам і дзяўчатам разбіцца на групы і скласці калаж — адлюстраваць мэты і чаканні, з якімі яны прыйшлі ў школу маладога журналіста. Да таго ж кожны з навучэнцаў напісаў «ліст сабе, выпускніку ШМЖ». Канверты закрылі і перадалі на захаванне трэнеру (дарэчы, я таксама напісала сабе ліст з пажаданнямі). Гэтыя пасланні мы прачытаем потым, на выпускным, са здзіўленнем і шчырай радасцю: збылося і спраўдзілася значна больш, чым чакалі!

А пакуль, нягледзячы на розніцу ва ўзросце і досведах, у групе ўсталяваліся добрыя сяброўскія стасункі. Сумесныя святы, у тым ліку дні народзінаў, спрыялі цёплай атмасферы ў калектыве.

## Вучыцца, каб ведаць

Падчас абмеркавання мэтаў з вуснаў слухачоў прагучала, што яны жадаюць навучыцца пісьменна выкладаць думкі, правільна аперыраваць фактамі, умела даносіць грамадству інфармацыю, адным словам, навучыцца асновам журналістыкі.

Ужо першыя сустрэчы паказалі, што ў журналісцкую майстэрню прыйшлі невыпадковыя людзі.

«Стартавым» рэдакцыйным заданнем было напісаць у газету пра свайго любімага настаўніка. І хоць на той час мала хто з вучняў меў уяўленне пра журналісцкія жанры, атрымаліся не толькі нататкі, але і замалёўкі, і інтэрв'ю. Творчыя спробы маладых аўтараў былі надрукаваныя ў газеце «Информ-прогулка» пад рубрыкай «"ПРОФІль" прапануе». Пазней гэтая рубрыка стала адной з самых папулярных на старонках «ИП».

Больш за тое, вучняў ШМЖ хутка сталі пазнаваць. У гэтым упэўнілася, калі аднойчы ў цягніку (тады мы ехалі на занятак у Мікашэвічы) кантралёр, спыніўшыся каля нас і не глянуўшы на квіткі, раптам запытаўся: «Вы, мабыць, журналісты з "ПРОФІля"?» Здзіўленыя дзяўчаты (хлопцаў не было, бо яны сустракалі нас у Мікашэвічах) згодна заківалі галовамі. «Бачыце, — заўважыла я сур'ёзна, — вы ўжо вядомыя. А гэта яшчэ большая адказнасць»... Задумаліся. Гэта быў добры ўрок.

Адным з паказальных лічу занятак «Рэпартаж». Супала, што гэта тэма стаяла ў плане якраз пасля падзей 19 снежня. Дзясяткі рэпартажаў з электронных і друкаваных СМІ красамоўна сведчылі: не кожны журналіст праўдзіва распавядае пра тое, як «прыйшоў, убачыў, напісаў». Эмоцыі, якія зведалі юнакі і дзяўчаты, чытаючы рэпартажы з месца падзей на плошчы ў Мінску, выліліся ў жаданне навучыцца пісаць так, каб гэта дазволіла чытачу «пабачыць усё на свае вочы».

## Вопыт — скарб

Раз-пораз імкнулася нечым здзіўляць сваіх «падначаленых», каб яны чакалі новых заняткаў і новых уражанняў. Часта ў нашу майстэрню заходзілі вопытныя журналісты і літаратары, з якімі мы ладзілі імправізаваныя прэс-канферэнцыі.

Настольным выданнем у маёй трэнерскай працы стала «Кніга ідэй для выкладчыкаў журналістыкі» шведскага журналіста Класа Тура, слухачкай курсаў якога мне пашчасціла быць. Уласна, з таго часу я і «захварэла» новым для сябе відам дзейнасці.

Хацелася б прывесці адзін з метадаў Класа Тура, прыдатны, як мне здаецца, не толькі для навучання. Самавітым мэтрам іншым разам не грэх «пераправерыць» свае ўменні і веды. І гэты метад можа быць скарыстаны: я яго апрабавала, па-першае, на сабе, па-другое, ужо ў якасці трэнера. Гэтая «фішка»



*Дзяўчаты і юнакі, што асвойвалі азы журналістыкі ў майстэрні «ПРОФІль», шмат чаму навучыліся. Яны даведаліся пра жанры, крыніцы інфармацыі і наогул больш асэнсавана і крытычна сталі падыходзіць да падзей рэальнага жыцця. Як вынік — шмат публікацый у газеце на розныя тэмы. Наша супрацоўніцтва было вельмі карысным і плённым.*

Андрэй Вышынскі,
заснавальнік і галоўны рэдактар
газеты «Информ-прогулка»







*Яшчэ са школы я марыла стаць пісьменніцай, таму без сумнення вырашыла паступаць на філфак. Але з цягам часу зразумела, што гэта не зусім тое, што мне патрэбна. Замест нуднага карпення над аркушам хацелася заняцца нечым больш жывым, цікавым, патрэбным людзям. Усё гэта знайшла, дзякуючы школе маладога журналіста.*

Вольга Соц, навучэнка



*Яшчэ год таму я не ведала, якую прафесію абраць. Заняткі ў ШМЖ не толькі дапамаглі зразумець, кім я жадаю быць, але і на некалькі крокаў наблізілі мяне да запаветнай мары. Калі я ўжо абрала прафесію журналіста, то абавязкова ім стану.*

Юлія Гаўрыленка, навучэнка



ўдала ўпісалася ў структуру занятку па тэме «Этычныя нормы журналістыкі». Важна, што на момант вывучэння гэтай тэмы вучні ўжо мелі пэўны практычны вопыт.

Дык вось, у памяшканні, дзе працуем, прыбіраем сталы і крэслы. Вызваліўшы прастору, скочам дзелім залу на дзве паловы — гэта этычная мяжа. Прапаную ўдзельнікам узгадаць прыклады, калі, рыхтуючы нейкія матэрыялы да друку, ім прыходзілася парушаць нормы журналісцкай этыкі або здзяйсняць не зусім этычныя ўчынкі. Тых, у каго такія прыклады ёсць, прашу стаць па левы бок мяжы. Тых, хто нічога не парушаў, — па правы. Калі ёсць сумненні, як расцэньваць тыя ці іншыя сітуацыі, прашу стаць непасрэдна на мяжу. Некалькі хвілін — і слухачы робяць свой выбар.

Прапаную «парушальнікам этычных нормаў» распавесці, што ж такое непрыстойнае яны здзейснілі. Завязваецца дыялог, ідзе абмеркаванне.

Напрыклад, Алёна Навуковіч палічыла неэтычным свой учынак, калі яна зрабіла здымак дворніка на вуліцы: ён не хацеў фатаграфавацца, а яна ўсё адно, хоць і здалёк, зняла яго. Вераніка Богдан стала на мяжы. «Чаму?» — усе чакаюць адказу. «Калі я рыхтавала матэрыял “Абед па раскладзе”, — распавяла дзяўчына, — работнікі школьнай сталовай забаранілі прайсці на кухню, але я ўсё адно вылучыла момант і зазірнула туды...»

Абмеркавалі, як суаднесці нормы журналісцкай этыкі са спрадвечным і прафесійным жаданнем рэпарцёра «прабіцца» да ісціны. Так атрымалася, што якраз на гэтым занятку ў нашай ШМЖ прысутнічаў карэспандэнт Associated Press Юрась Карманаў. Доўгі час ён узначальваў у ГА «БАЖ» камісію па этыцы, і яго досвед быў асабліва каштоўны. У выніку кожны з нас зразумеў, што аналізаваць «працоўныя» сітуацыі варта імгненна і штодня, памятаючы пра тую самую мяжу, за якую прафесіяналу пераступаць забаронена.

Гэты спосаб дазволіў нам калектыўна абмеркаваць сітуацыі, у якія можна патрапіць у паўсядзённай журналісцкай працы.

Дарэчы, «мяжу» са скоча можна выкарыстоўваць падчас вывучэння самых

розных тэм. Галоўнае — правільна паставіць пытанне, даць магчымасць зрабіць выбар і абмеркаваць паводзіны.

## Што ў полі зроку ?

Ад занятку да занятку я ўглядалася, ці не згаснуў бляск у вачах маіх вучняў. І, прызнацца, не было і разу, каб адчула, што камусьці нецікава ці сумна.

Як кажуць, апетыт прыходзіць падчас сілкавання. Ужо з кастрычніка амаль у кожным нумары газеты «Информ-прогулка» друкаваліся 2–3 работы маладых аўтараў, дзякуючы чаму больш разнастайнай стала тэматыка выдання, пашырылася маладзёвая аўдыторыя газеты, павялічылася колькасць наведванняў сайта і адпаведна палепшылася камунікацыя з чытачамі. Кожнаму з маладых журналістаў урачыста ўручылі пасведчанне пазаштатнага аўтара «ИП» — гэта пасадзейнічала яшчэ большай актыўнасці, жаданню скарыстоўваць навыкі на практыцы.

Кола тэм, якія трапілі ў поле зроку слухачоў ШМЖ, — самае шырокае: ад школьных навін да праблем глабальнага характару. Вялікі грамадскі рэзананс выклікалі артыкулы Юліі Шэлевенька «А пайсці ўвечары некуды» і Вікторыі Луд «Амерыканская мара для беларуса», нарыс Вольгі Соц «З пяшчотаю ў сэрцы, і з сэрцам па жыцці», інтэрв'ю Людмілы Хмялеўскай «Чарнобыльскі рак вылечваецца» і Святланы Ігнаткевіч «Непаўналетніх маці ўсё больш», карэспандэнцыі Юліі Гаўрыленка і Алёны Гавейновіч «Палёт у нікуды» і Веранікі Богдан «Абед па раскладзе», многія іншыя матэрыялы. Вялікую цікавасць праявілі чытачы да фотаконкурсу «Доўгая каса — дзявочая краса», які арганізавала Святлана Жыгар, дарэчы, самая малодшая ўдзельніца групы.

Выпускніцы Лунінецкай ШМЖ Юлія Гаўрыленка і Юлія Шэлевенька за свае працы «Крэйда састарэла, няхай жыве інтэрактыў» і «Як жылі ў Брэсце алімпійцы» падчас выпускнога вечара адзначаны заахвочвальнымі дыпломамі «За першыя паспяховыя крокі ў журналістыцы».

## Вынік ёсць працяг

На выніковым занятку, аналізуючы той шлях, што прайшлі разам за 10 месяцаў, мы раздрукавалі свае лісты, што пісалі на першай сустрэчы, і прачыталі пажаданні самім сабе. Разгарнуўшы калажы (іх я таксама захавала з першага занятку),



*Мне як студэнтцы Інстытута журналістыкі БДУ было цікава вывучаць журналістыку з ракурсу, больш адаптаванага да беларускіх рэаліяў. Атрыманыя веды дапамагаюць не толькі ў журналістыцы, але і ў жыцці. ШМЖ можна параўнаць са школай маладога байца: чым мацнейшы «баец», тым лепшы яго вынік.*

Вікторыя Луд, навучэнка







Я знайшла добрых сяброў, пазнаёмілася з цікавымі людзьмі — прафесіяналамі сваёй справы. Зараз мая мэта — накіраваць сваю энергію на тое, каб стаць сапраўдным журналістам. Вялікі дзякуй выкладчыкам, а таксама лёсу, што звёў мяне з імі.

Юлія Шэлевенька, навучэнка





праанализавалі, ці спраўдзіліся мэты, якія ставілі перад пачаткам курса, падсумавалі вынікі. Толькі адзін з удзельнікаў групы на паўдарозе «сышоў з дыстанцыі», астатнія пераканаліся: журналістыка — для іх.

Таму і планы ў выпускнікоў ШМЖ у нечым падобныя. Працуюць яны ці вучацца па розных спецыяльнасцях, усе маюць намер супрацоўнічаць са СМІ, удасканальваць атрыманыя веды. Тры навучэнкі курса, як і марылі, сталі студэнткамі, абраўшы журналістыку сваёй прафесіяй.

Журналістыка ў нашы дні, як гаворыць у сваёй кнізе для выкладчыкаў Клас Тур, — не толькі творчасць, гэта ў большай ступені «рамяство, гэта — прафесія, якая патрабуе ад тых, хто ёй займаецца, глыбокага разумення складаных з'яў у грамадстве і сваёй ролі ў ім». Менавіта таму, як падкрэслівае трэнер, «навучыць добрай журналістыцы хаця і магчыма, але складана».

Сапраўды, складана. Але ўсе мы, занятыя падрыхтоўкай будучых калег, імкнуліся рабіць усё, дзеля таго каб нашы слухачы вучыліся менавіта добрай, якаснай журналістыцы. Бо ў кожнага з нас ёсць нядрэнная практыка, а з досведам, як вядома, прыходзіць і мудрасць, якой хочацца падзяліцца...

Напрыканцы курса нашы вучні сталі іншымі — гэта было бачна не толькі па ўменні знаходзіць і аналізаваць факты, выкладаць думкі, гэта было бачна па іх вачах. І няхай не ўсе з нашых выпускнікоў стануць ПРОФІ, фундамент ведаў яны атрымалі. Цяпер УСЁ Ў ІХ РУКАХ!

P.S. У кастрычніку стартавала журналісцкая майстэрня «ПРОФІль-2». Разумею, што шлях будзе нялёгкі. Але спадзяюся, што і выпускнікі другой плыні, набыўшы досвед, змогуць сказаць: мы прыйшлі сюды нездарма...

# Адкуль хлусня ў газетах?

*Адар'я ГУШТЫН,*
*www.n-europe.eu*

**Выйдзеш на вуліцу — дэградацыя і алкагалізм. Зірнеш у газету — распачынаецца «Маршрут цвярозасці».**

**Кладзешся ў шпіталь — няма паловы лекаў, купляй сам. Разгортваеш газету — пабудавалі новыя медычныя цэнтры дый наяўныя маюць усё неабходнае.**

**Гэта журналісты жывуць у іншым свеце? Ці ім проста выгодна час ад часу заплюшчваць вочы?**



## «Вы ўсё разумееце самі»

Гэта фраза — «Вы ўсё разумееце самі» — будзе заўсёды суправаджаць журналіста. І калі рабочы тлумачыць нешта «не для друку», і калі чыноўнік адмаўляецца адказваць на пытанні, і калі строгі рэдактар выкрэслівае самыя гарачыя факты з тэксту: «Мы гэта не можам пусціць. Ты сама ўсё разумееш...»

Гэта замкнёнае кола, дзе ўсе ўсё разумеюць, але не адважваюцца пра гэта адкрыта сказаць. Журналісты газеты «Культура» працоўны дзень пачынаюць не з прэс-рэліза ад Міністэрства, а з сайтаў «Нашай Нівы», «Хартыі'97», «Белорусского партизана»... Яны ўсё разумеюць і ведаюць, дзе шукаць інфармацыю, набліжаную да рэальнасці. Але як толькі ў кабінет уваходзіць рэдактар, старонкі «варожых сайтаў» згортваюцца — пачынаецца праца над тэмамі пра стабільнасць, развіццё і неўміручасць сістэмы ў літаратуры, балеце, кіно.

Вы спытаеце: «Навошта яны там працуюць?» Насамрэч ім самім досыць складана адказаць на гэтае пытанне. Але калі падагуліць асноўныя тлумачэнні, то гэта «стабільны заробак», «сацыяльныя гарантыі», «магчымасць стаць у чаргу на кватэру». Пагадзіцеся, такія самыя адказы можна пачуць і на прахадной МТЗ.

Усё таму, што журналісты ў сваёй большасці — гэткія самыя людзі, як і астатнія беларусы. Нас выхоўвала адна сістэма. І толькі адзінкі могуць сказаць гэтай сістэме «не».

## Не бачыць, не чуць, не пісаць

На журфаку будучым журналістам на самай першай лекцыі кажуць: «Мы не навучым вас пісаць. Гэта або ёсць, або няма. Залежыць ад таленту». Прыкладна гэтак тлумачыць дэкан Сяргей Дубовік. І першакурснікам яшчэ страшна спытаць у яго: «А вы спрабавалі навучыць?» Такое пытанне калі і прагучыць, то адзінкава і на курсе чацвёртым-пятым. Але чаму дакладна журфак навучыць будучых акулаў пяра — недагаворваць, утойваць, не заўважаць і не чуць таго, што трэба не чуць.

На вытворчую практыку студэнта ніколі не адпусцяць у «апазіцыйнае выданне» — так называюць прэсу, дзе крытыкуецца ўлада. Прычым нават БелаПАН не праходзіць цэнзуру. «Вы можаце там працаваць колькі вам заўгодна, — тлумачыў мне намеснік дэкана Градзюшка. — Але журфак — гэта дзяржаўная ўстанова, і мы не можам вас адправіць у такія медыі на практыку. Ну вы ж усё разумееце самі...»

Студэнт на занятак прыносіць «Народную волю» і рыхтуе даклад пра этычны выбар журналіста. «Дзякуй, але чаму вы ўзялі менавіта гэтае выданне? — пытае выкладчык. — Няўжо няма




Photo.bymedia.net

іншых нармальных газет?» І ўжо на першым курсе ўсе разумеюць, што нармальныя — гэта «Рэспубліка», «Народная газета», «Кобрынскі веснік», «На страже» і г. д. А вось у «БелГазету», «Свободные новости плюс» або, не дай бог, «Народную волю» ці «Нашу Ніву» лепш не заглядаць.

Нядаўна размаўляла з Валянцінай, студэнткай чацвёртага курса. Кажу, што «Наша Ніва» абвясціла пра набор супрацоўнікаў. «Так, выданне добрае. Але я туды пакуль не пайду. Хочацца нармальна ўніверсітэт скончыць», — адказала мне дзяўчына.

Тыя, хто туды ўсё ж пайшоў, на працягу навучання павінны былі хавацца за псеўданімамі, адстойваць права друкавацца свабодна і быць гатовым да адлічэння ў кожны момант. Ці разумеюць студэнты, што гэта абсурд? Відавочна! Ці гатовыя яны змагацца з гэтым і адстойваць свае правы? Толькі адзінкі!

Большасць абірае шлях канфармістаў. Яны ідуць у дзяржаўныя выданні, бо гэта стабільна і часам нават прэстыжна.

У асяродку маладых журналістаў «Советская Белоруссия», напрыклад, — гэта нешта накшталт залатавалютнага рэзерву беларускай медыяпрасторы. Усе ведаюць, што там шмат плацяць. Адкуль бяруцца на гэта грошы, мала каго турбуе. Але праца ў такіх выданнях толькі навідавоку выглядае простай. Апроч звычайнай журналісцкай дзейнасці трэба быць гатовым да асаблівасцяў вытворчасці.

## Пра якія тэмы нельга пісаць у дзяржаўных газетах

Тое, што дзяржаўная прэса не адлюстроўвае рэчаіснасці, цяпер зразумела нават самым бадзёрым аптымістам. Бо калі кошты ў крамах узрастаюць удвая, а газета піша пра тое, што мы ідзём правільным стабільным шляхам, разумееш, што тут нешта не сыходзіцца. Пра крызіс і падаражанне журналістам праўладных медыяў пісаць забаранілі. «Намеснік рэдактара сказала мне прапанаваць вострую надзённую тэму. Я вырашыла пісаць рэпартаж з рынку — з параўнаннем коштаў, меркаваннем пакупнікоў, гандляроў і чыноўнікаў: што ж такое адбылося, што кава цяпер стала каштаваць 100 тысяч рублёў, — распавядае былая карэспандэнтка «Звязды» Настасся Занько. — Намеснік рэдактара сказала: "Нам такая тэма не патрэбная". Толькі калі я напішу пра гэта ў аптымістычным ключы. А які тут аптымізм, калі людзям на прадукты грошай не хапае?»

Забароны рэдактары не выдумляюць самі. Кожную пятніцу яны або іхныя намеснікі ходзяць на нарады ў Адміністрацыю прэзідэнта. Асноўны сігнал паступае адтуль.

«Ёсць дакладныя тэмы, на якія негатыўна пісаць нельга, — працягвае расповед Настасся Занько. — Гэта дзеянні Камітэта дзяржаўнага кантролю. Недакладныя праверкі, перабольшаныя штрафы — напісаць пра такія факты не дадуць. Я аднойчы паспрабавала. Прадстаўнік па сувязях з прэсай мне адразу сказаў: "Я не раю вам у гэта ўлазіць". Тая ж самая сітуацыя з Генпракуратурай, з Адміністрацыяй прэзідэнта — гэта ўстановы з німбам на галаве, яны не могуць памыляцца».

Калі ўважліва паглядзець старонкі газет, то крытыка дзе-нідзе праскоквае. «Знайшлі "хлопчыка для біцця" — Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Вось яго можна і нават трэба крытыкаваць. Працякае дах, дрэннае ацяпленне, адключылі гарачую ваду — такая крытыка можа быць. Магчыма крытыкаваць чыноўнікаў на мясцовым узроўні, але вельмі асцярожна», — кажа журналістка.

У працы Настассі быў выпадак, калі праз артыкул на газету пакрыўдзілася ўся беларуская армія. «У мяне выйшла невялікая інфармацыя пра суіцыд у войску. Там неадназначная сітуацыя, бо бацькі салдата лічаць, што гэта было забойства. А ваенныя чыноўнікі настойваюць на суіцыдзе. Я дачакалася адказу з ваеннай пракуратуры. Падала інфармацыю з абодвух бакоў. Але ваенным начальнікам гэта не спадабалася. Яны пакрыўдзіліся і наогул перасталі выпісваць газету», — распавядае Наста.

## Прымусовая падпіска — таксама справа журналіста

Распаўсюд выдання — гэта яшчэ адна важная праца для журналістаў. Здаецца, усе чулі пра прымусовую падпіску. Але як гэта працуе насамрэч? Калегі з дзяржвыданняў распавядаюць, што за кожным журналістам замацаваны пэўны рэгіён. Ён мусіць ездзіць туды, сустракацца з мясцовай вертыкаллю, пісаць нейкія тэматычныя артыкулы і дамаўляцца, каб падпіска павышалася. Не будзеш ездзіць — не атрымаеш прэміі. Апроч таго, журналістаў адпраўляюць на нарады з ідэолагамі ад прадпрыемстваў. Карэспандэнты (а не рэкламны аддзел) прыходзяць на сустрэчу з буклетамі і расповедамі, якое цудоўнае ў іх выданне. І вядуць свой улік: хто колькі выпісаў за апошні перыяд, каму паабяцана падтрымка на старонках газет і г. д.

У падпісной кампаніі сапраўднай гонкі няма. Ёсць неафіцыйнае правіла — «СБ. Беларусь сегодня» павінны выпісваць усе, а вось «Рэспубліку», «Звязду» ці «Народную газету» — на выбар.

Пасля сустрэчы з журналістамі ідэолагі размяркоўваюць, хто з супрацоўнікаў павінен выпісаць газету. На некаторых заводах гэта пачалі называць «абавязковы бонус да прэміі».

## «Напішыце пра нас добра»

Дамовіцца пра сустрэчу з чыноўнікам ці атрымаць інфармацыю для дзяржаўных журналістаў куды прасцей, чым для іхных калегаў з недзяржаўнага выдання. Але і тут бываюць выключэнні. «Ёсць сапраўды адкрытыя міністэрствы, ёсць тыя, дзе хлусяць, але хоць бы ўзгоднена, а ёсць, напрыклад, Міністэрства адукацыі ці Міністэрства аховы здароўя. Тут, каб атрымаць каментарый ад чыноўніка, трэба перш дабіцца дазволу прэсавага сакратара і ўсіх вышэйшых чыноўнікаў. У выпадку Мінадукацыі дарадца па сувязях з грамадскасцю часам настойвае на дазволе ад самога міністра», — распавядае Настасся Занько.

Згодна з законам, журналіст не абавязаны ўзгадняць публікацыю з тым, ад каго атрымаў інфармацыю, але чыноўнікі настроеныя на іншую хвалю. «Памятаю, як брала каментарый у чыноўніцы з Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі ды грамадскага здароўя пра тое, якія вадаёмы забароненыя для купання, — працягвае Настасся Занько. — Тры сказы ўзгаднялі дзве гадзіны. Суразмоўца правіла стыль, перастаўляла словы і ўсё ніяк не давала дазвол на публікацыю: "Вы так напісалі, нібыта я, як просты чалавек, кажу, а я не магу так размаўляць — я на пасадзе", — тлумачыла яна мне».

Больш за ўсё чыноўнікі любяць, калі журналісты наўпрост паўтараюць прэс-рэлізы: там жа ўсё выверана. А фраза: «Напішыце пра нас добра», — гэта не просьба, а рэкамендацыя.

На адной з «маўклівых» акцыяў прэс-сакратар ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі папрасіў усіх журналістаў адысці ў бок і не стаяць у цэнтры плошчы. «Дык тут жа цэнтр падзей! — абураліся калегі. — Можа, нам наогул сысці, а вы нам пасля прэс-рэліз дашляце?»

Шмат у якіх ведамствах менавіта такога і хацелі б. Пазіцыю чыноўнікаў пачынаюць адстойваць і рэдактары. «У мяне быў выпадак, калі мой артыкул пра закрыты доступ да "Хартыі'97" не прынялі ў друк таму, што я ўзяла каментарыі правайдараў і карыстальнікаў, якія пацвердзілі, што сайт не адкрываецца не толькі ў дзяржаўных установах, як абяцала Генпракуратура, але і ў звычайных карыстальнікаў. Мне зрабілі заўвагу, што гэтыя каментарыі лішнія. Трэба было рабіць, як БелТА: што на прэс-канферэнцыі сказалі, тое і даваць», — кажа Настасся Занько.

Апошнім часам, дарэчы, чыноўнікі часта арганізуюць сустрэчы з журналістамі. Але не трэба думаць, што гэта ад вялікай любові да прэсы. Праводзіць «гарачыя лініі» ды прэс-канферэнцыі яны абавязаныя паводле ўказа прэзідэнта № 119 ад 22 сакавіка 2011 г.

Карэспандэнт «Звязды» Павел Бераснеў дзеліцца ў сваім блогу досведам: «Як правесці прэс-канферэнцыю так, каб журналісты не задалі пытанняў? Правільна, абазваць яе брыфінгам: прыйшоў, з паперкі нешта пачытаў і пайшоў. Ніякіх табе нязручных пытанняў. А яшчэ лепей абазваць гэта відэабрыфінгам: і гучыць модна, і ўжо 100 % ніхто нічога не спытае. Прыкладна так прайшоў брыфінг міністра эканомікі Мікалая Снапкова з журналістамі. Прычым прэс-служба Мінэканомікі за пару дзён патэлефанавала журналістам і папрасіла загадзя даслаць свае пытанні. Даслалі. Ды толькі міністр адказаў на тыя, якія падаліся яму не вельмі вострымі».

## «Страх забівае разуменне»

Калі ў журналістаў развязваюцца языкі — на карпаратыве, пасля планёркі ці проста ў курылцы — яны ўвесь час паўтараюць: «Ды я ўсё разумею! Ды так немагчыма!» Але вяртаюцца на працоўнае месца і працягваюць артыкул пра тое, што падтрымка калгасаў сёлета вывела іх рэнтабельнасць на новы ўзровень. «Страх забівае разуменне, — упэўненая Настасся Занько. — Ім страшна падумаць, што будзе далей. Даражэе папера, звальняюць людзей, ужо няма адкуль браць датацыі на падтрымку, але мала хто думае, што будзе заўтра канкрэтна з ім».

Хіба ж не гэтаксама жывуць астатнія беларусы?

# Лявон Вольскі:

## «Трэба камусьці ў гэтай краіне й праўду казаць...»



Легендарныя музыкі Савелі ды Рыгор нарэшце завяршылі справу свайго жыцьця, якой была прысьвечаная вядомая песьня: «Саўка ды Грышка ладзілі дуду — павесяліцца ды прагнаць нуду». Інструмэнт яны зрабілі, але разам зайграць не змаглі. Празь ідэйныя разыходжаньні: адзін грае «За свабоду!», а другі — «За Беларусь!».



Ідэйныя разыходжаньні, між тым, не перашкаджаюць Саўку ды Грышку сябраваць, хадзіць разам у лазьню, спрачацца. А размаўляюць яны паміж сабою, як і бальшыня беларусаў, на трасянцы.

Саўка, ці Савелі Пятровіч Пстрычка, — прадстаўнік дробнай намэнклятуры, выканкамаўскі чыноўнік:

*Усем прывет! Мяня завуць Савелій.*
*Сяджу я ў іспалкоме, у аддзеле.*
*Дуду кагда-та ладзілі мы з Грышам,*
*Но жызьнь нас разьвяла па разным нішам.*

Грышка, ці Рыгор Браніслававіч Глык, — апазыцыянэр са стажам.

*Гарачае народу прывітаньне!*
*Краіна нашая ў гаротным стане!*
*Мяне завуць Рыгор, і да змаганьня*
*Я заклікаю супраць гэтай ганьбы!*
*Так, ладзіў я дуду, былі памылкі…*
*Тады я быў далёкі ад палітыкі,*
*Але цяпер я Саўку-рэнэгату*
*Ніколі не скажу: «Дзень добры ў хату».*

У красавіку 2010 году ў эфіры й на сайце Беларускай службы Радыё Свабода вядомы рок-музыка, літаратар і мастак Лявон Вольскі распачаў праект «Саўка ды Грышка». А летам 2011-га ў сэрыі «Бібліятэка Свабоды» выйшаў кампакт-дыск «Саўка ды Грышка: 50 "Песень праўды"».

Першая «Песьня праўды» была прысьвечаная прыезду ў красавіку 2010 году ў Беларусь Курманбэка Бакіева:

*Завідуйце, Масква, Пякін і Кіеў!*
*К нам прылятае Курманбэк Бакіеў.*
*Вот мы гасьцепрыімныя какія!*
*Бакіева ў бядзе мы не пакінем!*

І з той пары кожны тыдзень выходзіць новы твор.

Аўтар і выканаўца «Песень праўды» Лявон Вольскі разважае пра праект, пра чорныя сьпісы й наагул пра жыцьцё.

*— Лявон, як ты ставісься да чорных сьпісаў? Былі яны ў 2005 годзе, потым ці то іх адмянілі, ці то на іх забыліся. І вось у 2011-м чорныя сьпісы адрадзіліся зноў...*

— Зараз я стаўлюся ўжо несур'ёзна, з гумарам, зь іроніяю да гэтых сьпісаў, таму што дайсьці ўжо да таго, што забараняць «Крамбамбулі» выступаць! Гэта ж дзіка палітызаваны гурт, ну проста «Песьні змаганьня й барацьбы»! *(Сьмяецца.)*

Няшчасныя людзі, хто гэтым займаецца. А тыя, хто вымушаны падпарадкоўвацца загадам гэтых людзей, яны яшчэ больш няшчасныя. Іх трэба пашкадаваць і падзякаваць ім за той шалёны піяр, які яны робяць музыкам. Вось мы з «Крамбамбуляй» улетку езьдзілі з канцэртамі па Заходняй Нямеччыне, і гэта нам вельмі дапамагло.

*— Дарэчы, само Міністэрства інфармацыі катэгарычна адмаўляе, што такі сьпіс існуе,*

*міністар Праляскоўскі назваў гэта «гнюснай фальшыўкай і нахабнай правакацыяй». У той жа час кіраўнікі FM-станцыяў паказвалі журналістам гэты сьпіс — на звычайным аркушы, а не на афіцыйным блянку з рэквізытамі Мінінфарму. Дык вось адразу ж пасьля зьяўленьня гэтага сьпісу ў Вас адбыўся трыюмфальны тур канцэртаў па Беларусі. Атрымліваецца, што такі «піяр» дапамог ня толькі ў Нямеччыне, але і на радзіме? Да гэтага ня часта на радзіме Вас запрашалі выступіць на сцэне дзяржаўных канцэртных заляў.*

— Усё вельмі проста — мяне асабіста няма ў гэтым сьпісе. Я ж граю «Белую яблыню грому»: Лявон Вольскі — сольна. Мяне па нейкім зьбегу абставінаў не паставілі ў гэты сьпіс асобна.

Вы ня думайце, што некаму вельмі прыемна выконваць гэтыя абсалютна ідыёцкія й шызафрэнічныя пастановы пра забарону нармальнай музыкі. Нікому з чынавенства на месцах непрыемна гэтым займацца, яны разумеюць, што гэта «Навінкі» агульнанацыянальнага маштабу. Прычым у Горадні канцэрт быў у залі абласной філярмоніі, у Берасьці — таксама ў дзяржаўнай залі. Я думаю, што зараз больш небясьпечна будзе зьвязвацца зь нейкімі прыватнымі клюбамі, на якіх ёсьць сыстэма ціску, напрыклад, санэпідэмстанцыяй альбо пажарнай службай, — заўсёды ж можна знайсьці нейкія парушэньні. Дарэчы, у клюбе «Графіці» пры канцы жніўня адмянілі канцэрты Зьмітра Вайцюшкевіча й «N.R.M.». Прычына адмовы — праблемы з электраправодкай, менавіта ў дні канцэртаў яе вырашылі тэрмінова рамантаваць...

Зараз так не баліць, як мінулы раз. Тады такая дэпрэсія была! Што рабіць? Былі толькі нячастыя замежныя канцэрты, да нашых слухачоў ніяк не дайсьці. Спрабавалі ладзіць нейкія мікраканцэрцікі. А зараз ужо ня той час, ня будзе татальнай забароны — зараз ёсьць столькі розных варыянтаў! Ёсьць інтэрнэт, на крайні выпадак.

А калі сур'ёзна, тыя, хто забараняе, яны ж ня могуць нічога адэкватнага даць узамен. Вось у чым яшчэ іронія сытуацыі. То бок замены рок-музыкі ці збольшага разумнай сучаснай музыкі, не архаічнай, альбо нават архаічнай, але з разумным тэкстам, усёй гэтай плыні — няма ніякай замены!

Атрымліваецца, што ў нас року не існуе. У нас ёсьць эстрадныя выканаўцы. Але тое, што яны робяць, у большасьці выпадкаў нізкапрафэсійнае. Бо прафэсіяналізм — гэта ня значыць «наквэтаць» аранжыроўку, як я раблю «Саўку ды Грышку», потым на гэта насьпяваць «у ноту» вакал (а зараз такія ёсьць прыборы, што, нават калі ты сьпяваеш ня «ў ноту», выроўніваюць, — мы называем іх «паляпшайзэрамі»), і ўсё будзе выдатна. Нават калі гэтыя выканаўцы трапляюць у ноту, сьпяваюць чыста — усё адно людзі сьпяваюць, як машыны для данясеньня словаў у пэўнай танальнасьці. Паслухайце беларускую эстраду — гэта проста набор словаў, нават набор літараў. Там няма ні сэнсу, ні думкі.

Нядаўна быў у студыі, дзе запісваўся адзін вядомы беларускі артыст. Ён выконваў песьню, прысьвечаную сумнай падзеі — тэракту ў менскім мэтро. І калі я глянуў на аркуш з тэкстам... У мяне проста няма словаў! Прычым тэкст пісаў чалавек, які ствараў нейкія хіты для Баскава... Я згадваю, як некалі мае мама й тата, каб пракарміць сям'ю, бралі на рэцэнзію ў літаратурных часопісах творы нейкіх графаманаў, якія дасылалі ў рэдакцыю тоны сваёй пісаніны. Дык калі б такое патрапіла — там каменя на камені не засталося б...

Відаць, хтосьці з галоўных ідэолягаў загадаў: трэба тэрмінова адрэагаваць на тэракт. Я проста не разумею гэтых аўтараў. Няўжо нельга адмовіцца пісаць заказныя тэксты на такія тэмы?

*— Лявон, цыкль «Саўка ды Грышка» на Радыё Свабода называецца «Песьні праўды». Чаму такі назоў?*

— Я ж не вінаваты, што ў дзяржаве прынята хлусіць нават на высокім узроўні. Хлусяць людзі, ад якіх залежаць жыцьці людзей, людзі, якія вырашаюць лёсы. Але ведаюць, што прымаюць за доказ абсалютна хлусьлівыя сьведчаньні... Гэта ўжо палохае. Хутка ўжо й гераінчыку пакецік змогуць падкінуць. Калі ўжо Зьмітра Дашкевіча й Эдуарда Лобава такімі дзікімі й злоснымі хуліганамі зрабілі, быццам бы яны напалі на бясьпечных людзей... Таму трэба камусьці ў гэтай краіне й праўду казаць...

*— У каго й калі ўзьнікла такая думка — адрадзіць Саўку ды Грышку?*

— Год таму такая ідэя зьявілася. А зараз ужо выйшаў дыск — 50 песень. Такім працаздольным і пладавітым я аказаўся! Я прапанаваў дырэктару Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандру Лукашуку зрабіць штосьці ў стылі кабарэ, толькі кабарэ ў сэньсе нямецкім ці польскім (ня блытаць з так званым «рускім шансонам»). Бэртальд Брэхт працаваў у такім жанры.

Спачатку я напісаў некалькі песень на тэмат дня без герояў: «Ідэалёгія», «Вэнэсуэла», «Дзень Волі», «Піва». А тут добрую ідэю падказаў Аляксандар Лукашук: «Можа, варта з двух бакоў неяк?..» І я напачатку думаў зрабіць героямі Казіка й Юзіка. А Лукашук кажа: «Можа, лепш Саўка ды Грышка?» Я пагадзіўся: нармальна, няхай будуць Саўка ды Грышка...

*— Але 50 песень — даволі шмат. Я разумею, што бывае шмат падзеяў: то чорныя сьпісы, то суды за 19 сьнежня. Але бывае такое зацішша... Як у цябе хапае фантазіі?*

— Я, як і ўсе, досыць лянівы чалавек. Раблю ўсё ў апошні момант. Калі падыходзіць тэрмін дэд-лайну ці часу «Ч», я праглядаю інтэрнэт і пішу. Бываюць і нарыхтоўкі, але рэдка. А наконт пытаньня «надзённыя тэматы»... Ці што нічога



істотнага не адбываецца... Да прыкладу, летам была сьпёка, потым футбол, рэвалюцыя ў Лібіі, кошты рэзка ўзьляцелі... Саўка ды Грышка вядуць размовы ня толькі палітычныя, але і пра стаўленьне да жыцьця, напрыклад. У нас хапае ўсяго, тэмы ў нас ляжаць пад нагамі.

Што да музыкі, там мінімальная аранжыроўка, усё робіцца на кампутары. Але стараюся ўнесьці хоць нейкую разнастайнасьць, зьбіваюся разпораз у нейкі данс, «хімічную» музычку, рэп.

*— А як удаецца пісаць і выконваць так, што абодва героі выклікаюць сымпатыю? Здавалася б, адзін — апазыцыянэр, другі — дробны намэнклятуршчык, чыноўнік. Але калі слухаеш — яны абодва сымпатычныя й пацешныя...*

— Напачатку большую сымпатыю ў мяне выклікаў гэты адмоўны пэрсанаж, Саўка, дробны намэнклятуршчык, бо ён такі больш душэўны, адкрыты да дыялёгу. Хаця зразумела, што ў яго памылковыя перакананьні, ён можа быць крыху дурнаватым, а ў той жа час — сымпатычным. А другі, Грышка, наадварот, выклікаў антыпатыю, таму што ён такі зашораны апазыцыянэр, усё яму не падабаецца. Але пасьля пэўных падзеяў мае героі зьмяніліся. Апазыцыянэр Грышка набыў столькі цікавых рысаў характару! А дробны намэнклятуршчык Саўка здаў свайго сябра ў мянтоўку (за нецэнзурную лаянку).

*— Карацей, не атрымаецца апазыцыянэру перавыхаваць свайго сябра?*

— Мы паглядзім, як будуць разьвівацца падзеі ў краіне. Можа, праз пэўны час ён і перакуецца. Таму што я на свае ўласныя вочы бачыў, як у немаладых жанчын пэнсійнага ўзросту пахіснулася вера ў стабільнасьць. Бабуля не змагла забраць свой уклад у банку, і ўсё сьвятое, у што яна верыла, што тычылася гэтай улады, проста рухнула! Чалавек аслупянеў, мне нават шкада яе стала... Яна доўга яшчэ стаяла на банкаўскім ганку й ўглядалася ў гэтыя аркушыкі паперы: як тое магло адбыцца ў нашай стабільнасьці?!

Доўгатэрміновага сцэнару, чым усё скончыцца, хто ў які колер перафарбуецца, — няма. Усё ад разьвіцьця падзеяў будзе залежаць. Як Ленін пісаў: «Жыць у грамадзтве й быць свабодным ад грамадзтва нельга». Магчыма, творца й можа быць свабодным ад грамадзтва, насуперак Леніну, але з такім жанрам, як палітычнае кабарэ, — проста немагчыма.

Я нядаўна шмат з напісанага праслухаў — можа, гэта ня сьціпла, але мне ўсё падабаецца. Няма такога, за што сорамна. Нават калі кампазыцыі ня вострыя, калі былі такія тыдні, што практычна нічога надзвычайнага не адбывалася, было лета, сьпёка, і тое атрымлівалася сьмешна...

Я, прынамсі, навучаўся рыфмаваць ужо зусім зь іншым майстэрствам. Нават ёсьць там ужо й фігуры найвышэйшага пілятажу сярод рыфмы. Я цяпер і сур'ёзныя песьні ўжо лепей пішу, таму што ўвесь час адточваю паэтычнае майстэрства, вастру пяро на «Саўцы ды Грышцы».

*— Даведаліся пра харэй, ямб, дактыль, амфібрахій, анапэст...*

— Ну што вы, я з паэтычнай сям'і, яшчэ ў юнацтве праштудыяваў усё гэта й забыўся... Якія цяпер амфібрахіі? Бываюць, праўда, ямб і харэй. Бываюць падобныя песьні. Але ідэнтычных няма. Ва ўсіх 60 песьнях хоць і прымітыўны матыўчык,

але ў кожнай — свой... Бываюць такія праекты, што думаеш: «Але ці варта гэта рабіць?» А тут, як толькі я напісаў першую песьню пра Бакіева, зразумеў: усё нармальна.

Саўка й Грышка — супрацьлеглыя пэрсанажы. Яны — антыподы. Але іх зьвязвае дзяцінства ці пачатак юнацтва, а цяпер шляхі іх разышліся.

Дарэчы, даволі тыповая для Беларусі сытуацыя. Ёсьць такія кампаніі людзей, якія, да прыкладу, разам ходзяць у лазьню з канца 80-х — пачатку 90-х, калі не было яшчэ такой канфрантацыі ў нашым грамадзтве. Дык вось у Саўкі ды Грышкі з гэтых 90-х і працягваецца такое своеасаблівае сяброўства, яны — прыяцелі, разам ходзяць у лазьню, разам п’юць піва. І размовы ў іх такія: «Што ж ты такі казёл?» «Адчапіся, у мяне сям’я, а ў цябе толькі сабака...» Таму гэта даволі тыповая сытуацыя. У мяне, праўда, такіх сяброў няма. Але я ведаю аднаго беларускага музыку, які ходзіць з такім Савеліем у лазьню й мне пра гэта распавядае...

*— У Вас на многіх радыёстанцыях былі гумарыстычныя праекты: «Квадракола», «Куплеты й прыпеўкі», «Радыё Гамон». Што тычыцца гумару, сатыры, іроніі, сарказму — ці выратуюць яны нас?*

— Нас як грамадзянаў і як людзей, якія жывуць на пэўнай тэрыторыі ў пэўным атачэньні пэўных падзеяў і кіраўнікоў, апроч гумару, іроніі й сарказму, наўрад ці што выратуе. Таму што ўвесь час крычаць «ШОС» — і што? Хаця «ШОС» — ініцыятыва досыць саркастычная. Ня трэба праблемы падпускаць блізка да сябе, бо могуць пачацца незваротныя працэсы. А гумар заўсёды робіць такую своеасаблівую заслону гэтай рэчаіснасьці. Можа быць, у гэтай рэчаіснасьці пэўнаму адсотку народу й камфортна, але ня нам з вамі. Гэты пэўны адсотак альбо працуе на нейкіх высокіх пасадах, дзе яму камфортна, альбо ён слаба адукаваны й нізкай духоўнай арганізацыі.

*— А за гэты даволі востры цыкль пра Саўку й Грышку на Вас яшчэ не «наязджалі»?*

— Пакуль хапае розуму не «наязджаць». Калі пачнуць «наязджаць», гэта зноў жа мне плюс будзе. Але, спадзяюся, хопіць розуму не чапляцца...

Прынамсі, адным разам «наехалі». Пры канцы кастрычніка на партале Tut.by-TB у жывым эфіры праходзіла анлайн прэзэнтацыя кніжкі Лявона Вольскага «Міларусь» і канцэрт ягоных лепшых песень. Вольскі згадаў пра Сяргея Міхалка, якога выклікалі ў пракуратуру, паразважаў наконт таго, што прагляд дзяржаўных тэлеканалаў уяўляе зь сябе сэанс мазахізму. Калі Лявон пачаў выконваць «Маналёг Саўкі» — гумарэску пра тое, як старшыня выбарчай камісіі выпадкова трапіў пад зачыстку пасьля прэзідэнцкіх выбараў, трансьляцыю спынілі, не паведаміўшы пра гэта самому выканаўцу.



Прычым «Маналёг Саўкі» Вольскі напісаў і выканаў адразу ж пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, песьню можна спампаваць на сайце Радыё Свабода, ёсьць яна й на дыску...

Кіраўніцтва сайту спачатку апраўдвалася, што «Маналёг Саўкі» «супярэчыць канцэпцыі парталу». Але на наступны дзень, пасьля рэзанансу ў СМІ, на Tut.by усё ж адважыліся выставіць гутарку з Вольскім цалкам, без скарачэньняў і купюраў. Сам музыка кажа, што на партал не пакрыўдзіўся...

*Гутарыла Ядзьвіся БУРАЧОК*
*Фота Ўладзімера ГРЫДЗІНА*
*і photo.bymedia.net*

# Непакоіць Гандурас



*Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,*
*палітычны аналітык БелаПАН,*
*медыйны эксперт*

**У адзін дзень я атрымаў магчымасць задаць пытанні міністру замежных спраў, прэм'еру і прэзідэнту.**

**Кожнага з іх па чарзе бачыў на адлегласці выцягнутай рукі. Было гэта ў кастрычніку 2011 года на выбарах у польскі Сейм.**
**Натуральна, вядзецца тут пра лідараў суседняй краіны.**

## Калі прэзідэнт стаіць у чарзе

На ўчастак, дзе галасавалі з інтэрвалам у паўгадзіны прэзідэнт Браніслаў Камароўскі і прэм'ер Дональд Туск, ваш пакорлівы слуга прыйшоў без усялякай акрэдытацыі і з сумкай, у якой тэарэтычна мог бы змясціцца цэлы арсенал. Людзі з кручанымі правадамі за вухам журналістаў не трэслі, увогуле ахова была мінімальная і фантастычна карэктная.

А Камароўскі з жонкай яшчэ і пастаяў у чарзе па бюлетэні, бо ніхто не зачышчаў навакольную прастору ад звычайнага электарату. Дарэчы, участак месціўся хоць і ў прэстыжным, але даволі аблупленым з фасада ліцэі. Ніхто не кінуўся адмыслова фарбаваць будынак дзеля віп-персон. Падазраю, што ў краіне па-за Бугам і кароў шампунем не мыюць, і асфальт у гразь не бухаюць напярэдадні візітаў найвышэйшых асоб. Там прэзідэнт — не цар, таму пацёмкінскія вёскі без патрэбы.

У Туска ж я запытаўся, як бы ён пракаментаваў словы Лукашэнкі, што абяцаныя Еўразвязам Беларусі па выніках варшаўскага саміту «Усходняга партнёрства» дзевяць мільярдаў долараў — не болей чым «вутка». Пікантнасць моманту была ў тым, што гэтыя грошы ад імя Бруселя абяцаў сам Туск.

Ягоны адказ (сутнасць: дамо і болей, калі будуць дэмакратычныя рэформы) я адразу ж аддыктаваў на стужку БелаПАН. Ды падумаў сам сабе: калі пасля рэформаў, то, бадай, як рак на гары свісне.

Заставалася толькі пазайздросціць польскім калегам, што працуюць у людскіх умовах. Галоўнае ж — ім ёсць пра што пісаць, бо там выбары — гэта сапраўды выбары.

Напрыклад, кіраўнік дыпламатычнага ведамства Радаслаў Сікорскі да канца галасавання не мог быць упэўнены, што захавае крэсла ў новым урадзе. Але ў выніку яго «Грамадзянская платформа» перамагла, і таму на партыйнай вечарынцы пан Радэк быў у гуморы. Так што я падруляваў у зручны момант. І паколькі ведання польскай бракавала, то нахабна стаў задаваць пытанні пабеларуску. Інтуіцыя падказвала: той наўрад ці скажа, што не разумее, бо будзе выглядаць няёмка (як да Лукашэнкі



*Прэзідэнт Польшчы Браніслаў Камароўскі*



*Прэм'ер Дональд Туск*

лётаў на перамовы, дык усё разумеў, а як незалежны беларускі журналіст звяртаецца — ад вінта?).

Неўзабаве інтэрв'ю ўжо вісела на Naviny.by. Акрамя таго, на сайце выйшла серыя рэпартажаў з польскіх выбараў.

Карацей, тая вандроўка за Буг дала магчымасць без залішняга палемічнага запалу ды абстрактных заклінанняў пра еўрапейскія каштоўнасці (чым грашаць як апазіцыйныя палітыкі, так і незалежныя рэсурсы), а спакойна, на пальцах паказаць айчыннаму чытачу, якой лухты нагарадзіла беларуская дзяржаўная прапаганда наконт «польскай пагрозы» і як працуе рэальная дэмакратыя.

## У логаве монстра

Два гады таму аналагічна я зрабіў для Naviny.by серыю рэпартажаў з выбараў у нямецкі бундэстаг. У прыватнасці, кінулася ў вочы, што на мітынгах тамтэйшых «адмарозкаў» публіка спакойна частуецца півам з сасіскамі. Атмасфера абсалютна разняволеная, бо не баяцца разгону. Наадварот, паліцыянты ахоўваюць.

А партыі, што збіраюць не меней за паўпрацэнта (згадзіцеся: мізэр!) галасоў на агульнафедэральных выбарах, атрымліваюць права на дзяржаўнае фінансаванне. Падобны парадак, дарэчы, і ў Польшчы: дастаткова набраць на выбарах у Сейм 3 % (гэта ніжэй за парог праходжання ў парламент), і гэтай партыі адкрываюць казённы пансіён. І ніякіх табе лямантаў пра «пятую калону». Насамрэч, нашто прасіць грошы за мяжой, калі свая ўлада дае?

Калі ж я быў у Брусэлі, то першы рэпартаж пра падарожжа ў «логава падступнага монстра» пачаў з таго, што трапіць у НАТО элементарна: трэба сесці на 21-ы аўтобус ля каралеўскага палаца ды пілаваць акурат да прыпынку, што так і называецца — «НАТО». Калі бачыш, як мірна цячэ плынь клеркаў з партфелямі ў комплекс сціплых шэрых будынкаў (што, кажуць, планаваліся пад радзільню — гэтае прыстанішча паспешліва выбралі ў 1967 годзе, пасля таго як дэ Голь выгнаў НАТО з Парыжа), то вобраз монстра адразу развальваецца. Кантора як кантора. І кіруюць там зусім не генералы, а палітыкі.

Апафеозам жа стаў адказ аднаго з афіцэраў альянсу, канадскага марака, на маё пытанне, як ён ацэньвае моц беларускай арміі. Калі зухаваты ваяка глыбакадумна зазначыў, што трэба паглядзець даведачны матэрыял: колькі там у вас танкаў, субмарын (!), то наша журналісцкая кампанія не здолела стрымаць смеху. Гэты дыялог я зрабіў цвіком другога рэпартажу з «логава»: бачыце, беларуская прапаганда дзяўбе, што натаўцы дзень і ноч рыхтуюцца напасці на сінявокую рэспубліку, а тыя і не ведаюць, што яна нават выхаду да мора не мае. Субмарыны ў палескіх балотах — гэта крута!

Канечне, пісалася гэта не без сцёбу: вожыку зразумела, што ёсць у альянсе і большыя знаўцы Беларусі. Але гумар найлепей праціраe вочы, разганяе хімераў.

І вось вам яшчэ адзін, ужо цалкам сур'ёзны, штрых: першым, каго мы сустрэлі ў другім «логаве НАТО» — пад бельгійскім гарадком Монс (там месціцца стратэгічнае камандаванне альянсу па аперацыях), быў… падпалкоўнік беларускай арміі. Пакуль палітыкі палохаюць, вайскоўцы Беларусі і НАТО нармальна кантактуюць, працуюць у межах праграмы «Партнёрства дзеля міру» (іншая рэч, што супраца магла б быць куды болей маштабная, каб не спецыфіка беларускага рэжыму). Наш афіцэр сувязі — увесь час там, у «логаве». Але афіцыйныя СМІ гэтага не афішуюць.

Зноў падкрэслю: жывыя дэталі, эфект прысутнасці, гумар дапамагаюць разбураць прапагандысцкія міфы пра замежжа гэтаксама, як разбурае бункер высокадакладная натаўская бомба.

## Як я ўлагоджваў канфлікт вакол Карабаха

Іншая рэч, што выбрацца за мяжу беларускаму журналісту зазвычай не надта проста. І тым болей нерэальна для нашых незалежных медыяў трымаць за кардонам штат уласных карэспандэнтаў.

І ўсё ж у эпоху інтэрнэту замежжа — побач. Пры жаданні можна за пару гадзін грунтоўна вывучыць сітуацыю ва ўсялякай краіне. Трэба толькі ўмець працаваць з масівам інфы. Значна лягчэй стала наладжваць ды падтрымліваць кантакты з замежнымі палітыкамі, прэс-службамі, экспертамі. І тады ў патрэбны момант праз мабільнік або «Skype», напрыклад, можна практычна імгненна атрымаць з Вільні, Варшавы, Берліна, Брусэля каментар на гарачую тэму ад споўксмена нейкай інстытуцыі ці мясцовага журналіста, публіцыста, аналітыка.

Аднак жа, як казаў Пушкін (дарэчы, не толькі паэт, але і таленавіты журналіст), *«мы ленивы и нелюбопытны»*. Чым напружвацца, уключаць мазгі, даставаць замежнікаў наўпроставымі пытаннямі, лягчэй настрыгчы з Сеціва матэрыялу паводле метады «копіпэйст» («капіюй ды ўстаўляй»). Фантастычны крэатыў!

Карацей, скажам шчыра: падача міжнароднай інфармацыі ў шэрагу недзяржаўных медыяў — стандартная, безаблічная, шэрая, невыразная. Бракуе і моцнай аналітыкі на міжнародныя тэмы. У гэтым сэнсе над намі яшчэ навісае цень «саўка».

За савецкім часам беларускія перыёдыкі камплектавалі міжнародныя падборкі перадрукамі ТАСС ды АПН — маскоўскіх фірмаў, што выдавалі прадукт з прапагандысцкім начыннем. Звычайна рубрыкі кшталту «За мяжой», «Глобус», «Планета» навешваліся на вечна перагружаных сакратарыятчыкаў, якія чыста механічна «забівалі месца». Бадай, менавіта такімі бяздушнымі, казённымі тэкстамі з фальшывым пафасам (кшталту: як кепска жывецца замежным працоўным пры імперыялізме!) быў навеяны хрэстаматыйны савецкі анекдот:

*«– Мяне непакоіць Гандурас…*

*— А вы яго не расчухвайце!»*

Падчас перабудовы, рэдагуючы газету «Знамя юности» (тады яе наклад сягнуў пад 800 тысяч асобнікаў), ваш пакорлівы слуга зведаў на ўласнай скуры, што маскоўскі погляд на падзеі па-за межамі Беларусі можа капітальна «падставіць» выданне. Аднойчы сакратарыят не доўга думаючы замалаціў на паласу каментар АПН пра карабахскі канфлікт. Між тым аўтар артыкула быў далёкі ад нейтральнасці. І калі нумар выйшаў, у мой рэдактарскі кабінет уваліліся два раз'юшаныя азербайджанцы

з Камароўкі (тады ў стары Дом друку на праспекце мог спакойна зайсці хто хоча). Паверце, напачатку было надта няўтульна... Мы паразумеліся на тым, што выйдзе новая збалансаваная публікацыя.

## Наўкола ворагі!

З тае пары газета стала аддаваць перавагу ўласным каментарам на міжнародныя тэмы. Наш спецыяльны карэспандэнт Алег Груздзіловіч зрабіў серыю выдатных рэпартажаў са зруйнаванага землятрусам армянскага Спітака. Свой, адрозны ад маскоўскага, погляд быў у «Знамени юности» і на дзейнасць народных франтоў у тагачаснай Прыбалтыцы. Сапраўднай мяжы яшчэ не існавала, і даімчацца да Вільні было як двойчы два. Дарэчы, прызнаюся, што ўпершыню ўбачыў «у натуры» вялікі бел-чырвона-белы сцяг менавіта на адным з мітынгаў «Саюдзіса». Падзеі студзеня 1991 года ў Вільні, калі Масква спрабавала задушыць літоўскі рух танкамі ды спецназам КДБ, газета «Знамя юности» таксама падала ў сваёй, а не крамлёўскай трактоўцы.

Перабудова, а потым распад СССР перавярнулі мысленне многіх айчынных журналістаў. З'явілася свая кагорта міжнароднікаў, што сталі падаваць падзеі і працэсы ў навакольным свеце з гледзішча інтарэсаў незалежнай Беларусі.

Але адліга хутка скончылася. Пасля прыходу Лукашэнкі да ўлады Мінск перасварыўся ледзь ці не з усім светам. Зноў загнаная ў хамут дзяржаўная прэса стала нагнятаць атмасферу абложанай крэпасці. Збіліся на прымітыў у міжнароднай тэматыцы і некаторыя незалежныя рэсурсы. Адны выскубваюць з гэтай плыні толькі тое, што супраць «злачыннага рэжыму»; іншыя то падаюць справу так, што ўвесь Захад толькі і думае пра скіданне дыктатуры, то (плаўны пераход!) бэсцяць той самы Захад за абыякавасць ды гешэфты з гэтай самай дыктатурай... Фрагментарна, непаслядоўна, аднабока, павярхоўна, дубова.

## «Языками не владею, Ваше благородие»

Канечне, рыба з галавы гніе. Для шэрагу рэдактараў «міжнародка» — нешта такое факультатыўнае, паводле астаткавага прынцыпу. Адпаведна і падначаленыя не напружваюцца. З іншага боку, смешнавата выглядаюць у асобных рэгіянальных выданнях міжнародныя агляды, напісаныя з гледзішча пікейных камізэлек — «Чэмберлен — галава, я б яму палец у рот не паклаў»: без аніякай лакалізацыі, без выхаду на айчынныя і рэгіянальныя праблемы. Увогуле, з незалежных перыёдыкаў хіба што «Новы Час» спрабуе зрабіць сваёй «фішкай» грунтоўнае асвятленне міжнароднага жыцця (хаця пытанне лакалізацыі, «зазямлення» на нашы рэаліі і там застаецца).

Кожны рэдактар выкаціць вам воз аб'ектыўных цяжкасцей. Сапраўды, бракуе падкаваных кадраў для працы з міжнароднай тэматыкай. *«Языками не владею, Ваше благородие»* і да т. п. Але ж сёння да вашых паслуг і прасунутая творчая моладзь (пад дахам БелаПАН, напрыклад, вырасла ў моцную журналістку-міжнародніцу выпускніца лінгвістычнага ўніверсітэта, былая школьная настаўніца Марына Рахлей, шчыруюць на гэтай жа ніве Таццяна Каравянкова, Антон Тарас), і электронныя перакладчыкі на горшы выпадак.

Існуе, канечне, і праблема айчынных экспертаў. Тыя, што на дзяржслужбе, або не стануць даваць вам каментар, або пагоняць прымітыўны афіцыёз. Каментатары з іншага лагера нярэдка грашаць такімі ж, мякка кажучы, спрошчанымі трактоўкамі, кляймуюць, а не разважаюць. Але, зноў жа, трэба ведаць, з кім працаваць. Добры журналіст, рэдакцыя метадычна напрацоўваюць кола якасных экспертаў. Нарэшце, варта памятаць: як гукнецца, так і адгукнецца. Калі журналіст задае прымітыўнае, павярхоўнае, стэрэатыпнае пытанне, дык і адказ адпаведны. Каб разварушыць адмыслоўца, выцягнуць з яго глыбокія ды нешаблонныя высновы, трэба ўмець закінуць кручок з належнай прынадай. А дзеля гэтага — самому петрыць у тэме, пастаянна яе маніторыць, весці дасье і г. д.

## Паказваць жыўцом ды ўключаць мазгі

А мо, не варта так грузіцца? Сеціва ўратуе! Так, бадай, кожны грамадска-палітычны сайт ёсць у значнай ступені агрэгатарам. Пры штаце ў тры з паловай чалавекі — свайго кантэнту, тым болей міжнароднага, не набярэшся. Аднак жа многае залежыць ад умелай селекцыі матэрыялаў, удумлівай кампаноўкі, рэжысуры інфармацыйнай стужкі. Ва ўсякім разе, прыкра, калі беларускія незалежныя газеты, вэб-рэсурсы па інерцыі бяздумна перадрукоўваюць тэксты на міжнародную тэму з блізкіх да Крамля расійскіх крыніц. Так, з мовай няма напругі, але ж там наіўна шукаць аб'ектыўнасць у дачыненні, напрыклад, да праблемы Абхазіі і Паўднёвай Асеціі, іранскай ядзернай праграмы ці палітыкі Вашынгтона.

З іншага боку, прэс-рэлізы еўразвязаўскіх структур — сухія, нецікавыя. І таму высакародная з гледзішча айчынных дэмакратаў мэта пераканаць беларусаў у неабходнасці еўрапейскага выбару трансфармуецца ў асобных СМІ ў невыразную, дзяжурную кампанію. Прапануецца прэсная казёншчына, каша з абрэвіятур шматлікіх інстытуцый Еўразвяза.

Толькі зрэдчас блісне рэпартаж, артыкул, у якім Еўропа — не сумна-бюракратычная і не залізана-ідэальная, а жывая, супярэчлівая. Тая, што сварыцца, ратуючы еўра; ламае галаву над мусульманскай праблемай; утаймоўвае сваіх «адмарозкаў» — не палітычных апанентаў улад, а сапраўды адвязаных крымінальнікаў, як тое было ў Лондане... Рэдка паказваецца «жыўцом», як там рэальна жыве народ і працуюць механізмы, якія беларуская кіроўная вярхоўка грэбліва называе «дзермакратыяй».

Не варта ківаць на рэжым, што, маўляў, зачыніў нам свет і не дае магчымасці мець штат міжнароднікаў. Каб не падаваць міжнародную тэму ў саўковым стылі «непакоіць Гандурас», па вялікім рахунку трэба няшмат. Найперш трохі варушыцца ды ўключаць мазгі.

***Фота аўтара***

# Вы — тое, што вы чытаеце



Сафія БУЛЯК

**Даўно вядома, што прэса спекулюе на звычайных людскіх слабасцях, а чалавек, якім бы высакародным ён сябе ні лічыў, любіць час ад часу і ў чужую кішэню зазірнуць, і прымерыцца да стылю жыцця «зорак», і паказытаць нервы падрабязнасцямі скандалаў. Прэсу, якая прываблівае чытача маштабным і сакавітым «казытаннем», называюць жоўтай. Самай вядомай беларускай газетай «пра зорак» лічыцца «Комсомольская правда в Белоруссии».**

Але і вешаць ганебны цэтлічак на газету з тыражом у 330 000 асобнікаў спяшацца не варта. Паспрабуем разабраць яе на асобныя старонкі і праверыць іх на «ген жаўцізны».

Каб пазбегнуць абвінавачанняў у тэндэнцыйным стаўленні, у шапіках «Белсаюздруку» цягам 40 дзён без усялякай сістэматыкі былі набытыя сем нумароў газеты. Начытацца ў іх можна было чаго заўгодна! Тут вам і прароцтвы знакамітых празорцаў, і парады, як выбраць масла для машыны, і самапіяр камерцыйных кампаній, але больш за ўсё — зоркі, зоркі, зоркі з іх няспыннымі вяселлямі, разводамі і раманамі. Артыкулаў, прысвечаных складаным падзеям у краіне і свеце, набралася менш за два дзясяткі. Між тым у гэты час здарыліся землятрус у Японіі, выбухі на атамнай станцыі Фукусіма і ў мінскім метро.

Калі паспрабаваць скласці рэйтынг найбольш папулярных тэм «Камсамолкі», то атрымаецца наступная карціна.

На першым месцы — *сямейныя стасункі* і *асабістае жыццё.* Тэма раскрываецца пераважна праз аб'ёмныя інтэрв'ю з рознымі спевакамі ды акцёрамі, але сустракаецца шмат аповедаў і пра шараговыя сем'і, якія злаўчыліся вылучыцца з агульнай масы сваімі амаральнымі выбрыкамі. Таксама можна адшукаць надзвычай карысныя парады побытавай псіхалогіі — але, мне падаецца, іх здольныя раздаваць нават дзеці сярэдняга школьнага ўзросту.

Далей — *скандалы.* Яны здараюцца не часта, таму, каб прыцягнуць да іх увагу чытачоў, «Камсамолка» анансуе такія матэрыялы на першай паласе, суправаджаючы вельмі эмацыйнымі загалоўкамі, набранымі буйнымі літарамі чырвонага колеру. Нібыта вывешваецца чырвоная ануча для чытачоў, правакуючы іх неадкладна набыць нумар і пачаць чытаць. Менавіта скандалам аддаюцца ўсе лепшыя старонкі газеты, падвоеныя развароты. Неад'емныя элементы гэтых старонак — каляровае афармленне, буйныя шрыфты і шматлікія фотаздымкі, якія звычайна тычацца ці то судоў і злачынстваў, ці то амаральных звычак і паводзінаў.

*Грошы* ва ўсіх магчымых іх праявах, вядома, вабяць чытачоў. «Камсамолка» бярэ пад увагу выключна сямейны бюджэт. Вельмі часта на старонках (прычым на першых) газеты сустракаюцца розныя аналізы і параўнанне коштаў, зарплат, выдаткаў на пэўныя патрэбы ў часавым і рэгіянальным разрэзе, парады, што, дзе і як набываць. Усё гэта — у багатым атачэнні графікаў, табліц і карыкатур. Дзесьці на апошніх старонках абавязкова які-небудзь банк, рэкламуючы сябе, падрабязна распавядзе пра тыя паслугі, якія ён прапануе, навучыць, як узяць крэдыт і не страціць на працэнтах. Ну і «Камсамолка» б не была «Камсамолкай», калі б з усімі пікантнымі падрабязнасцямі не распісала, як дзеці якой-небудзь памерлай акцёркі судзяцца за спадчыну ці якімі беднымі былі вялікія людзі, што пакінулі свой след у гісторыі.

*Неспазнанае, таямнічае.* Дыназаўры, НЛА, прывіды, прароцтвы і прадказанні (у бонус да іх тры віды штотыднёвых гараскопаў), не раскрытыя даследчыкамі загадкі, цуды, звязаныя з рэлігіяй, таямніцы чалавечай псіхікі, экстрасэнсы і знахары, рэклама паслуг чараўнікоў у пятым пакаленні... Нават талісманы друкуюць — толькі выразай і хавай сабе ў кішэню.

*Здароўе.* Звычайна газета раз на два-тры тыдні выдае спецыяльны ўкладыш на 6 старонак, цалкам прысвечаны разнастайным праблемам чалавечага цела. Але і апроч таго амаль у кожным нумары будзе старонка пра глабальную жаночую праблему — дыету ці ўвогуле падвоены разварот з вытрымкамі з «гарачай тэлефоннай лініі», праведзенай якім-небудзь выбітным спецыялістам айчыннай медыцыны.

Пісаць тое, што будзе цікава для пэўных, пажадана — найбольш шматлікіх колаў грамадства, — гэта заўсёды гарантыя поспеху. Але найперш трэба прыцягнуць увагу чытача, прымусіць яго набыць газету. І ў якасці «халоднай зброі» тут выступаюць загалоўкі, асабліва тыя, што месцяцца на першай старонцы. Вось, да прыкладу: «НИКОЛАЙ БАСКОВ: Я РАД, ЧТО У МОЕГО РЕБЕНКА ПОЯВИЛСЯ ХОРОШИЙ ОТЕЦ». Яскравы прыклад спробы зацікавіць чытача адразу ў некалькіх кірунках! З аднаго боку — адвечная прага ведаць падрабязнасці асабістага жыцця знакамітасцей, а з другога — моцнае абурэнне безадказнымі бацькоўскімі паводзінамі.

Ці вось таксама з вокладкі: «В РОССИИ РАСКУПИЛИ ДОЗИМЕТРЫ И ПРЕПАРАТЫ С ЙОДОМ». І зноў гульня на эмоцыях: карыстаючыся трагічнай сітуацыяй у Японіі, «Камсамолка» падсілкоўвае людскую паніку. Калі ўжо ў Расіі раскупілі дазіметры, то беларусы, здароўе якіх падарвана чарнобыльскай катастрофай, мусяць адразу запасацца скафандрамі (дарэчы, на фатаздымку пад загалоўкам якраз чалавек у скафандры). Яшчэ пра здарэнне на Фукусіме: «ВАНГА ПРЕДСКАЗАЛА, ЧТО В 2011 ГОДУ БУДЕТ ЯДЕРНАЯ КАТАСТРОФА». На рэйтынгавай трэцяй старонцы чытача шакуюць тым, што выбух на атамнай электрастанцыі можна было прадухіліць, бо знакамітая прадказальніца — гэта той аўтарытэт, які яшчэ нікому не ўдалося аспрэчыць.

Але экскурс у свет таемнага і неспазнанага ў гэтым нумары газеты адным прароцтвам не абмяжоўваецца: не менш рэйтынгавая перадапошняя старонка цалкам аддадзена пад артыкул з шыкоўнай назвай «ЗАЧЕМ ВО СНЕ К НАМ ПРИХОДЯТ ПОКОЙНИКИ?».

А вось прыклады вельмі ўдалых загалоўкаў — з пункту гледжання маркетынгу, а не журналістыкі. «Я СЕЙЧАС ОЧЕНЬ НЕСЧАСТЕН — СО МНОЙ РАЗВЕЛАСЬ ЖЕНА» — загаловак да інтэрв'ю са спеваком Аляксандрам Сяровым. Артысту задавалі самыя разнастайныя пытанні: пра творчасць, пра светапогляд, пра асабістае жыццё, — але менавіта гэтая цытата стала загалоўкам. Верагодна, каб нават тыя кабеты, што не ведаюць Сярова, з пачуцця жалю да яго набылі газету. «НА КОРОЛЕВСКУЮ СВАДЬБУ ПОЗВАЛИ МЯСНИКА И БЕЗДОМНУЮ» — можаце хоць сто разоў прачытаць гэты артыкул, але слоў «мясник» альбо «бездомная» там няма! Адзіны «нестандартны» госць — гэта дзядзька маладой, які калісьці захапляўся марыхуанай ды стрыптызёршамі.

У калаўроце жарсцяў ды эмоцыяў, аднак, знайшлося месца і для сапраўдных навінаў пра актуальныя падзеі. Праўда, «Камсамолка» зусім не імкнецца пераканаць сваіх чытачоў у важнасці таго, што адбываецца ў палітычнай сферы, у эканоміцы краіны, яе культурным жыцці альбо хвалюе ўвесь свет. Усе сур'ёзныя навіны эканомна туляцца на адной-дзвюх чорна-белых старонках, запоўненых невялічкімі артыкуламі, надрукаванымі дробным шрыфтам і з сухімі загалоўкамі. Дый сам змест такіх матэрыялаў расчароўвае: што чытаў, што не чытаў, а праз пяць хвілін ужо нічога не памятаеш.

Фактычна, купляючы газету, прыхільнікі «Камсамолкі» набываюць не інфармацыю, а чароўную паперу, якая робіць іх жыццё лепшым. Па-першае, газета для іх — самы лёгкадасягальны сродак рэлаксу. Не ўсе маюць магчымасць патрапіць на канцэрт альбо выступ свайго куміра, затое можна рэгулярна чытаць, што ж там адбываецца ў яго жыцці. Не ва ўсіх здараецца ў жыцці штонебудзь цікавае, нешараговае, але газета дасць тэмы для абмеркавання ў чарзе ў паліклініцы.



Па-другое, «Камсамолка» для сваіх чытачоў — дарадчык на ўсе выпадкі жыцця. А хто яшчэ так дасціпна, а галоўнае — своечасова распавядзе, як не захварэць на грып, калі змяніць гуму на аўтамабільных колах, у які месячны дзень высаджваць расаду, як выбраць шпалеры ў дзіцячы пакой і шмат чаго іншага і, безумоўна, неабходнага? Без такой газеты людзі проста заблытаюцца ў гэтым жудасным свеце і, як сляпыя кацяняты, будуць торкацца ў замкнёныя дзверы.

Ну і трэцяе, ці не самае галоўнае: выданне ператварылася ў хатняга псіхолага для сваіх чытачоў, якія жывуць, кіруючыся стандартнымі схемамі, прытрымліваюцца адных і тых жа тыповых жыццёвых каштоўнасцей, апранаюцца ў аднолькавае адзенне і амаль заўжды незадаволеныя лёсам, які ім выпаў. Паслугі «самарэабілітацыі» прапануюцца на выбар! Жадаеце — можаце спусціць зорак шоу-бізнесу з неба на зямлю, прачытаўшы інтэрв'ю, дзе тыя распавядаюць, як сумуюць па сваім сабаку, з'язджаючы на гастролі, і як дома гатуюць ежу выключна самі, не давяраючы гэтую святую справу кухаркам. А можаце, наадварот, узвысіцца над знакамітасцямі, падзівіўшыся, што яны ўсе спрэс алкаголікі, наркаманы, капрызныя, сквапныя і амаральныя.

Але і для зорак «Камсамолка» — як прамень маяка: пакуль яе карэспандэнты імі цікавяцца, можна быць упэўненымі, што ў народзе яшчэ не згасла жаданая папулярнасць.

Змагацца з «жаўцізною» ў СМІ бессэнсоўна, бо зменшыць попыт на яе магчыма хіба што шляхам вынішчэння шырокага кола чытачоў. Можна толькі даць параду, як не патрапіць на гэтую жоўтую вуду і як увогуле лепш трымацца ў жыцці: проста занадта не расслабляцца!



Photo.bymedia.net



*Канстанцін СКУРАТОВІЧ*

# Статыстычная бульба

Пасля майскай дэвальвацыі рубля шмат хто з беларусаў разлічваў перажыць першапачатковы стрэс ад усеагульнага падаражання, пераключыўшы страўнік на традыцыйную айчынную прадукцыю: капусту, моркву, буракі, бульбу...
Але выявілася, што ні ў крамах, ні на рынках таннай і айчыннай бульбы няма. А ў гіпермаркетах ёсць. Але надта дарагая, бо «заморская». Узнікла пытанне: «А дзе свая?» Адказаць на яго не маглі нават улады, ад якіх насельніцтва яшчэ летась чула, што ў Беларусі бульбы стольк і, што, каб яе ўсю захаваць, трэба тэрмінова будаваць новыя бульбасховішчы. Калі ж спатрэбілася, у засеках «другога хлеба» не знайшлося.

Гэта было дзіўна і для саміх уладаў. Ужо восенню, калі поўным ходам ішла ўборка, міністр эканомікі Мікалай Снапкоў выказаў публічнае здзіўленне, даведаўшыся, што ў Беларусь за 8 месяцаў увезена «іншаземнай» бульбы на 12 мільёнаў долараў. Справа ў тым, што сваёй меркавалі прадаць за мяжой на 300 мільёнаў, а давялося купляць. У Польшчы, Літве, Іспаніі і нават экзатычным Марока.

З гэтай нагоды і ў простых людзей узнікла пытанне, колькі ж насамрэч бульбы збірае Беларусь. Здавалася, што адказаць на яго вельмі проста. Дастаткова зазірнуць у справаздачы Нацыянальнага статыстычнага камітэта. Паводле яго звестак, у 2008 годзе валавы збор бульбы склаў 8,8 мільёна тон, або 904 кілаграмы на душу насельніцтва. Праз год «надвор'е падвяло», сабралі ўсяго 7,3 мільёна, а ў 2010-м лета было лепшым, таму загрузілі ў засекі 7,8 мільёна тон.

Такім чынам, у сярэднім за год валавы збор бульбы складае блізу 8 мільёнаў тон. Больш як 800 кілаграмаў на душу насельніцтва ўключна з немаўлятамі (лічыцца, што гэта самы высокі паказчык у свеце). Гэта пры тым, што медычна абгрунтаваная гадавая патрэба крыху перавышае 100 кілаграмаў на чалавека.

Куды ж падзеліся астатнія 700 кілаграмаў? Па разліках спецыялістаў, выкарыстанне бульбы на корм жывёле забяспечвае ў маштабах краіны вытворчасць 20 кілаграмаў мяса і 40 літраў малака на чалавека. Выходзіць, што большую частку бульбы з'ядаюць

свінні і каровы. Яшчэ 20 гадоў таму з гэтым пагадзіўся б кожны вясковец. А зараз селянін толькі патыліцу чухае: дзе тыя каровы, дзе тыя свінні? Дзе тая бульба?

Патлумачым. Згодна з папярэднімі афіцыйнымі ацэнкамі, сёлета ў сельгасарганізацыях вырашчана 1,2 мільёна тон бульбы, у фермерскіх гаспадарках — 0,3 мільёна, а ўсяго 7,47 мільёна. Гэта азначае, што на сялянскіх «сотках» і дачных участках сабрана амаль 6 мільёнаў тон. Звернем увагу: амаль у 6 разоў больш, чым у былых калгасах і саўгасах.

Гэты факт змушае паставіць пытанне аб напаўненні, мэце і характары сялянскага жыцця.

Патлумачым. Згодна з афіцыйнай статыстыкай, у 1979 годзе ў БССР быў пастаўлены абсалютны сусветны рэкорд вытворчасці бульбы на душу насельніцтва, які наўрад ці будзе кім-небудзь пабіты. Валавы прадукт склаў 15,3 мільёна тон, палову з якіх вырасцілі ў калгасах і саўгасах, а палову — у прыватных гаспадарках. Паводле перапісу насельніцтва 1979 года агульная колькасць жыхароў краіны склала 9,53 мільёна чалавек, з якіх 5,33 мільёна жылі ў гарадах, а 4,2 мільёна — у сельскіх населеных пунктах. Такім чынам, на аднаго жыхара ў сярэднім прыпадала 1600 кілаграмаў бульбы, а прыватная вытворчасць на аднаго селяніна складала 1800 кілаграмаў.

Зноў узнікае пытанне: «Навошта столькі?» Адказ просты: тады існаваў Савецкі Саюз, і «бульбяное» пытанне ў БССР вырашалася з улікам патрэб неабсяжнай імперыі. На кожнай чыгуначнай станцыі стаялі вагоны, якія дзень і ноч загружаліся бульбай новага ўраджаю. На «бульбе» працавалі дзясяткі тысяч студэнтаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў, службоўцаў. Для ўсіх было наладжана бясплатнае харчаванне, гаспадаркі аплачвалі працу па дакладных расцэнках грашыма або той жа бульбай. Студэнты атрымоўвалі стыпендыю, а астатнія — сярэдні месячны заробак і нават камандзіровачныя. Дарагая выходзіла бульба, але што тут зробіш. Насельнікаў Масквы і Ленінграда, байцоў Савецкай Арміі трэба было карміць.

Цікава, што амаль ніхто з вяскоўцаў у гэтай «агульнанароднай справе» не ўдзельнічаў. Большасць капала бульбу на ўласных сотках. Было дзеля чаго. Агульны прыватны статак тады налічваў 1,5 мільёна галоў буйной рагатай жывёлы, 1,8 мільёна свінняў, блізу 300 тысяч авечак, каля 50 тысяч коз і амаль 20 мільёнаў хатніх птушак. Такую плойму трэба было пракарміць. А камбікармоў тады не хапала нават для грамадскага статка. Таму сяляне шчыравалі, як маглі, і кармілі свіней нават хлебам: тады ён быў адносна танны. За гэта вяскоўцаў усяляк бэсцілі савецкая прэса і розныя начальнікі, але што зробіш, калі людзям трэба было неяк сілкавацца.

Некалі Маркс пісаў пра ідыятызм вясковага жыцця. Але ў беларускай савецкай вёсцы ўсё мела свой сэнс. Бульба ішла на адкорм жывёлы, да паловы малака і мяса прадавалася на рынках, здавалася ў калгасы, у канторы дзяржнарыхтовак. Грошы збіраліся на рахунках у ашчадкасах і ўкладаліся ў будаўніцтва кааператыўных кватэр дзецям, якія праўдамі і няпраўдамі з’язджалі ў гарады і засталіся там.

Такім чынам, бульбаводства было адной з фінансавых крыніц імклівай па ўсіх мерках беларускай урбанізацыі, якая збольшага завяршылася да пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Неўзабаве працэс перасялення ў гарады страціў масавасць, бо не засталося каму пераязджаць.

Паводле перапісу насельніцтва 2009 года, колькасць сельскіх жыхароў зменшылася да 2,4 мільёна чалавек, у многіх вёсках жывуць толькі пенсіянеры. І калі зыходзіць з афіцыйных звестак, то гэтыя пенсіянеры сабралі амаль 6 мільёнаў тон бульбы, або 2500 кілаграмаў на душу насельніцтва. На 700 кілаграмаў больш, чым у рэкордным 1979 годзе, калі сялян было ў 1,75 раза болей і былі яны непараўнальна маладзейшыя, чым зараз! Нібыта беларускія пенсіянеры перад адыходам у «лепшы свет» становяцца магутнымі, як казачныя асілкі. Але ж відавочна, што гэта не так.

Ды і навошта ім пнуцца, дзеля каго цяпер завіхацца? Паводле афіцыйных звестак, на 1 студзеня гэтага года пагалоўе буйной рагатай жывёлы ў прыватных гаспадарках складала 221 тысячу галоў (15% ад 1979 года), свіней — 932 тысячы (каля 50%), птушкі — 6,5 мільёна (33%). Ужо ёсць вёскі, дзе нават пеўневых спеваў не чуваць. А статыстыкі лічаць, што ўсе вяскоўцы па-ранейшаму стаяць ракам на барознах, каб карміць жывёлу, якой насамрэч няма.

Хто тут дурань і хто каго хоча абдурыць і навошта, цяжка зразумець. Але здаецца, што паколькі ў нас кіраванне вертыкальнае, дык кожны вертыкальшчык імкнецца сабраць з падведамаснай тэрыторыі як мага большы ўраджай. Ён павінен стымуляваць сялян да вытворчасці, да выкарыстання сотак па іх прызначэнні або перадаваць іх буйным гаспадаркам. Хаця ім яны таксама не патрэбны. Таму прымаецца простае і «адэкватнае» рашэнне: нічога не вырашаць. А каб быў патрэбны вынік, трэба толькі памножыць плошчу ўчасткаў на сярэднюю ўраджайнасць, атрымаць «валавы збор» і адправіць гэтыя лічбы для справаздачы ў вышэйшую інстанцыю. Там правяраць не будуць. Бо гаворка ідзе не пра таварную прадукцыю, якая патрабуе афармлення адпаведных фінансавых папер, а пра бульбу, якая сыплецца ў прыватныя засекі. Колькі яе там напраўду — хто праверыць?

Таму рызыкі ніякай. Надзімай сабе ВУП, як гэта робіць цыган на кірмашы, калі хоча прадаць старую кабылу, запэўніваючы, што гэта малады жарабок.

Зразумела, бульба ў Беларусі яшчэ ёсць. Але збольшага ўяўная, статыстычная...

# Кисмет означает «судьба»



*Анатолий ГУЛЯЕВ*

## Сиреневый туман

...Это была новогодняя ночь с 1967 на 1968 год, и случилось это впервые за мои семнадцать с половиной лет. Рыжая Люба, наша лаборантка, опершись о барьер бурплощадки, смотрела на меня. В лучах прожекторов ее фигура, казалось, выточена из местного камня с загадочным названием. И даже мешковатый брезентовый комбинезон, который любого Аполлона превращал в сидящего на крыше собора Парижской богоматери Квазимодо, непостижимым образом только подчеркивал достоинства ее фигуры. Впрочем, что я тогда понимал в женских прелестях?

Я был уже практически влюблен в рыжую Любу, а она просто смотрела на меня с бурплощадки.

...В тот год популярными были сразу несколько песен. В том числе о рыжей девочке, которая хотела летать, и, конечно, «...Кондуктор не спешит, кондуктор понимает, что с девушкою я прощаюсь навсегда...».

Собственно говоря, девушек, с которыми пришлось бы расставаться трагически навсегда, у большинства из нас, выпускников Минского машиностроительного техникума образца 1967 года, не было. Зато всего остального — с избытком. И сиреневый туман, и звезда над тамбуром вагона, который вот-вот унесет неведомо куда, на далекую окраину Союза ССР. Меня конкретно — в неведомый город Колхозобад в Таджикистане, где предстояло работать помощником дизелиста на буровой в тамошней экспедиции, которая проводила разведку нефтяных и газовых месторождений.

## Вахта

...Направили меня на буровую номер 124 проектной глубины 5000 метров. Располагалась она далеко в горах рядом с афганской границей, и по ночам с вышки видны были огни пограничных прожекторов. Работали бригадой (которая называлась «вахтой») из восьми человек. Люди все уважаемые: каждый отсидел в тюрьмах, в общей сложности по 8–10 лет, и имел образование не выше восьми классов. Кроме как на окраинах тогдашнего Союза работать им нигде больше не полагалось.

А я был молод, имел диплом, квалификацию механика по дизелям и полное отсутствие практических навыков. Такого было за что не любить.

...Меня подвели к шести громадным 450-сильным дизелям В-2 и сказали: «Работай!»

Что с ними делать — решительно не понятно, потому что в техникуме нас учили в основном только чертить эти двигатели. Работать с ними не приходилось никогда!

А тут еще более чем 40-градусная жара! Яростно ревущие, постоянно перегревающиеся дизеля, переплетение труб, старший дизелист Равиль, к месту и не к месту матерящийся с сильным татарским акцентом...

Первые месяцы было худо. Мужики целенаправленно пытались «осадить» меня до полагающегося, по их мнению, уровня. Но вскоре все, что называется, «устаканилось». Теория, беззастенчиво шваркнутая о «древо жизни», в конце концов восторжествовала. А тут еще на буровой появилась новая лаборантка.

## Как она смотрела!

...Ее звали Люба, и была она моего примерно возраста — рыжая и неместная. Говорили, что приехала из Заргара — города, расположенного выше по течению Вахша, в котором тогда строили крупный алюминиевый комбинат.

Она как-то очень уверенно вписалась в коллектив. Немедленно предпринятые попытки «распускать руки» пресеклись как-то сами по себе. И даже Леха, здоровенный помбур с четырехклассным образованием и тремя «от звонка до звонка» отбытыми сроками, известный тем, что хватал всех «плохо лежащих» женщин независимо от возраста и национальности за все части тела... Даже он как-то присмирел.

А в ту новогоднюю ночь, которая пришлась на нашу вахту, она впервые пришла на бурплощадку, оперлась на металлические перила и,



четко вырисовываясь в свете прожекторов, смотрела вниз, в дизельную, где надрывно ревели моторы — смотрела конкретно на меня.

Это было непостижимо и загадочно. Я ожесточенно драил смоченные раствором каустической соды дощатые полы. Сбивал в кровь пальцы, пытаясь завести очень капризный дизель КДМ-100, приводящий в действие генератор. И все время чувствовал на себе этот долгий волнующий взгляд, в котором читалось что-то, о чем я еще не имел представления. И тогда сами по себе рождались стихи:

*Вот так, а небо сыплет пылью снежной.*
*У фонарей оно прозрачней и светлей.*
*И что-то позабытое и нежное*
*Звучит в железном ритме дизелей...*

Потом она появлялась всякий раз, когда мы приезжали на буровую. А затем, после вахты, возвращались в Колхозобад в одном автобусе. Но она сидела в окружении наших мужиков, с их сальными шутками, и, казалось, совсем не обращала на меня внимания. Но ради нее, как водится, я уже был готов на многое.

Помню, в местной чайхане стоял в очереди за пивом. А пиво — это всегда праздник, тем более что привозили его в наш жаркий городок весьма редко. И тогда в длинные очереди выстраивались даже те, кто никогда раньше не употреблял.

...У самого прилавка стоявший впереди осетин взял свои два бокала и, полуобернувшись ко мне, сказал чайханщику:

— Он заплатит!

Конечно, в другой ситуации я бы заплатил. Потому что напрашиваться на проблемы с осетином (осетины и крымские татары, сосланные в Таджикистан еще при Сталине, были там некоронованными королями) мог только сумасшедший. К тому же в те времена кружка пива и 5 шампуров с шашлыком стоили всего лишь 50 копеек. А моя первая зарплата в экспедиции составила, как сейчас помню, 370 рублей 42 копейки — три с половиной зарплаты моей мамы учительницы!

Но я был молод и еще мало бит. К тому же где-то рядом была рыжая Люба!

— Сейчас, только разуюсь!

Осетин промолчал. А когда я собрался уходить, остановил у выхода:

— Ну давай, разувайся!

Народ вокруг с интересом наблюдал. Всякого рода стычки воспринимались здесь как бесплатное развлечение, что-то вроде петушиных боев. Избегать их (особенно если сам напросился) считалось неприличным, к тому же единственный выход уже плотно блокировали еще несколько осетин.

— Да пошел ты!

Я в техникуме активно занимался боксом, хотя в большие спортсмены, слава богу, не вышел. И руки, и ноги были (и остались!) для бокса недостаточной длины. Спасала недурная реакция, но, повторюсь, не вышел. Поэтому меня все же не так часто били по голове, и я сегодня способен еще что-то сочинять...

Словом, когда осетин ударил — совершенно «по-колхозному», с замахом, — на выходе из нырка я попал ему в челюсть.

Бом!

Он упал с характерным звуком, стукнувшись затылком о дощатый пол.

Тут надо было срочно уходить. Но, напомню, я был тогда еще мало бит. И потом — шкурой чувствовал синий изумленный взгляд рыжей Любы.

А осетин медленно встал и вытащил нож.

...Спас меня некто Кеша-бай — крымский татарин, наркоман и интеллигентный бандит, который по уголовному статусу Колхозобада был выше этого осетина. Не зря к его имени прочно прилипло добавление «бай».

К счастью, вскоре после приезда сюда, летом довелось случайно с ним познакомиться в местном ресторане под открытым небом с характерным названием «Памир». Демократичный ресторан: по его залу с уверенностью первых красавиц ходили собаки и, доброжелательно глядя в глаза, просили кусочек мяса. Подпивший народ, жующий плов, мяса не жалел.

В тот душный вечер мы отмечали «ускорение» — проходку за месяц большего, чем полагалось, количества метров скважины и получение за это немалых денег: рублей так по 500 на брата. Т. е. очень много...

Единственный тогда коньяк под названием «Бубафок» (по-моему, венгерский) стоимостью по 5 рублей за бутылку лился стремительно и бурно, как пенистые воды речки в горах под Шартузом. Народ уже перешел к перечислению преимуществ Сиблага перед другими учреждениями подобного же типа. А за соседним столиком здоровенный крымский татарин читал стихи Александра Блока:

*И дышат древними поверьями*
*Ее упругие шелка...*

И останавливался. Бывает так: когда очень много выпьешь, вдруг словно отрезает — и невозможно вспомнить не то что стихи Блока — собственную фамилию...

Он в отчаянии вертел головой и говорил:

— Подожди, Рем, подожди, я вспомню...

Этот самый Рем и еще несколько мужиков и женщин за столиком восхищенно смотрели на него и верили, что вот-вот вспомнит...Тогда я повернулся к ним:

— Извините, дальше так:

*...И шляпа с траурными перьями,*
*И в кольцах узкая рука...*

— ...Твою мать, правда! — закричал крымский татарин, тыча в меня пальцем. — Он, сука, все знает!

И кинулся обниматься. Потом выяснилось: он когда-то служил в Советской Армии в городе Бобруйске и с восторгом рассказывал, что там снег «белий», т. е. белый, сухой и легкий по сравнению с влажным серым снегом Таджикистана. Он уважал меня за то, что я белорус, что знаю наизусть больше стихов, чем он. Он увел меня тогда из той чайханы и помирил с осетином. Поэтому я до сих пор жив.

## Кисмет

Зато так и не удалось узнать, вырос ли я после той драки в глазах рыжей Любы. Потому что примерно через месяц после этой истории ее арестовали. Потом выяснилось: у себя в Заргаре она была активным членом местной молодежной банды, занимавшейся в числе прочего наркотиками.

Как мне рассказывал потом здоровенный Леха, в экспедицию она устроилась не только зарабатывать деньги. Дело в том, что в Заргаре начались аресты, Люба знала, что до нее очередь дойдет обязательно. И приняла чисто женское решение: быстрее выйти замуж и забеременеть — тогда по закону при рассмотрении уголовного дела ей полагались льготы. Юный помдизелиста — застенчивый мальчик из Беларуси, малопьющий и не наркоман, вполне подходил для этой цели.

Конечно, все так бы и было — наш бессловесный роман длился всего несколько месяцев, а меня, как я теперь понимаю, уже можно было «брать» голыми руками. Еще бы чуть-чуть — и в романтическом порыве бегал бы по милициям, носил передачи, ожидал рыжую Любу из тюрьмы...

...Потом я служил в армии, вернулся, женился на другой девушке. Мы прожили с ней уже почти 40 замечательных лет и вырастили двоих замечательных детей.

Турки говорят «кисмет», что означает «судьба». Мою жену тоже зовут Люба.





# Испытано

## или

# Как я узнала, что «годна» быть журналистом

**Поступление, призыв на срочную военную службу, рабочая командировка за рубеж, новая работа, получение водительского удостоверения — множество жизненных этапов начинается примерно так: «Все хорошо, вы нам подходите, осталось только пройти медкомиссию». И хотя все мы прекрасно понимаем, что медицинская комиссия в общем-то нужна, для того чтобы убедиться, что «все ваши органы функционируют нормально», почему-то мысль о ней никого не радует. Скорее, наоборот: ведь впереди — несколько нелегких дней хождения по кабинетам и стояния в очередях.**
**А может, за последние годы все изменилось и меня ждут приятные впечатления от общения, если верить государственному телевидению, с едва ли не самой передовой в Европе системой здравоохранения?**

Вечером, накануне, знакомлюсь с перечнем специалистов, которых мне в ближайшие дни придется лицезреть, и списком анализов, которые необходимо будет сдать. Проверяю, не забыла ли положить в сумку паспорт. Пытаюсь отыскать позитив — хоть обследуют меня, посмотрю, как оно, здоровье-то, в очередях дочитаю давно отложенную книгу Марты Кетро, да заодно... напишу репортаж. Итак, с Богом.




### День первый. Доврачебный кабинет, рентген и «чудо»

11.45. В регистратуре Солигорской поликлиники, как всегда, людно. Отстояв очередь из шести человек, нахожу в справочнике номер своей амбулаторной карты. Узнав о цели моего визита, девушка в регистратуре направляет

# на себе,



*Варвара ЧЕРКОВСКАЯ*

меня в доврачебный кабинет, где в медицинском освидетельствовании распишут номера кабинетов специалистов и время приема. «Уж это-то быстро», — предполагаю я. Иду по коридору и вижу скопление людей. Сегодня звезды не на моей стороне, передо мной — целых 20 пациентов. Время тянется удивительно медленно, так всегда, когда в довольно банальной ситуации натыкаешься на неопределенность.

Вижу, что народ настроен не слишком оптимистично. Женщины, работницы парикмахерских, возмущаются, что отменили санитарные книжки. Дескать, раньше было удобнее и быстрее. Заходящие в кабинет «зависают» там в среднем на минут 7–10. Поглядываю на часы, и становится ясно, что могу не успеть. Но за мной тоже люди — много людей. В 14.35 нам объявляют, что в 15 часов прием прекратят. Народ ропщет, но никто не уходит. К очереди подходит парень и спрашивает: «Кто крайний?», ему раздраженно отвечают: «Сказали не занимать». Парень не уходит, а вскоре он становится подозрительно бледным. Но ждущим у кабинета не до милосердия…

«Куда ты пропал? У тебя же высокая температура! Я ведь сказала, чтобы ты прошел в доврачебный без очереди. Чего стоишь?» — громко проговорила выбежавшая из соседнего кабинета встревоженная врач. Парень грустно усмехнулся: «Посмотрите, какие люди нервные. Я не смог без очереди».

15.00. Прием заканчивается, группка недовольных отправляется жаловаться начальству. Но оно, как оказалось, на планерке, люди возмущенно расходятся. Но я не хочу упускать уже практически потерянный день и решаюсь попросить, чтобы мне расписали кабинеты, ведь в доврачебном остались сидеть те же медсестры. «Мы занимаемся другой работой», — отвечают мне. «Скажите, а никак нельзя оптимизировать работу кабинета, чтобы принять больше людей? Например, заложить в компьютер время работы каждого врача, а потом быстро распечатывать для пациентов. Какая экономия времени!» «Нет, нельзя, у каждого — свои врачи», — начинают злиться. «Так на печать можно выводить и время работы, и номера кабинетов врачей, любой программист может вам помочь», — не унимаюсь я.

В ответ зловеще молчат. «Но я почти три часа простояла в очереди. Давайте вы мне продиктуете, а я распишу сама». «Пусть распишет, а то не даст работать», — вдруг идут мне навстречу. Чудо!

«Записывайте, только быстро!» Начинаю строчить: лор — с 13 до15 в кабинете 404 или 49, невропатолог — с 13.30 до 15.30 в кабинетах таких-то, окулист — тогда-то, прививки — с утра, анализы — там-то, зачеркиваем фтизиатра… пишем гинеколога, зачеркиваем венеролога-дерматолога, пишем психиатра-нарколога… Записываю номера кабинетов, время работы врачей и понимаю, что попала по-крупному. Кроме иных «радостей» мне выдают направления на анализы. И резюмируют: «Рентгена нет, за август прошлого года не пойдет, без него вас никто не примет, так что с него и начните. И гинеколог желательно “посвежей”». Манипуляции в доврачебном заняли минуты четыре, не более. Раскланиваюсь…

15.20. Бегу к кабинету на первом этаже поликлиники, где можно сделать рентгеноскопию. На двери объявление: «Аппарат не работает, обращайтесь в приемный покой».




Фото автора

